

Юрась Лаўрык

# Беларускія кніжныя помнікі ў зборах Бібліятэкі імя Францыска Скарыны ў Лондане

*Да 30-годзьдзя Беларускай Бібліятэкі імя Ф.Скарыны*

**Юрась Лаўрык**

# БЕЛАРУСКІЯ КНІЖНЫЯ ПАЗНАКІ Ў ЗБОРАХ БІБЛІЯТЭКІ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ Ў ЛЁНДАНЕ

Лёндан
Беларуская Бібліятэка імя Ф. Скарыны
2001

## Уступ

Фонды Беларускае Бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане (далей — ББФС) фармаваліся, у значнай меры, дзякуючы ахвяраваньням розных асобаў ды арганізацый, і таму ў іх багата прадстаўлены выданьні з разнастайнымі паметамі, надпісамі ды экслібрысамі, стаўленымі іхнымі аўтарамі, чытачамі або колішнімі ўладальнікамі. Зробленыя ў розных мясьцінах і часох, яны нярэдка зьяўляюцца каштоўнымі крыніцамі для вывучэньня ня толькі гісторыі беларускае кнігі, але, таксама нават, і культурнае гісторыі Эўропы ды сьвету. Згадаўшы, што лёнданская Беларуская Бібліятэка мае ў сваіх сховішчах шэраг кніг з такімі, у прыватнасьці, цікавымі пазнакамі, як рукапісная нататка: "41. Ex libris S[anc]tae Genoviefae parisiensis / 1749." (на кнізе: Allatius L. , *De aetate*... Romae, MDCXXXVIII" ); як кунштоўны гербовы экслібрыс Гендэрсана-Клеланда (на: Addis W., Arnold Th. *A catholic dictionairy*.. London, 1957); або, таксама, аўтарская дэдыкацыя: "For the Rev[erend]: Dr: Maclaine / from the Author" (на: King J. G. *The rites and ceremonies of the Greek Church in Russia*... London, MDCCLXXII), зазначым, аднак, што у гэтым нарысе нашая ўвага будзе зьвернутая на пазнакі, зьвязаныя, галоўным чынам, з асобамі, каторыя пакінулі прыкметны сьлед ў беларускай гісторыі ды культуры і якія ўжо ня жывуць. Экслібрысы і пазнакі арганізацыяў ды інстытуцый, якіх у фондах Бібліятэкі таксама нямала, мы, за рэдкім выключэньнем, тут не прадстаўлялі.

Разгляданыя пазнакі мы дзелім на тры групы: 1) Аўтарскія ды чытацкія паметы; 2) Аўтаграфічныя дарчыя і дэдыкацыйныя запісы; 3) Экслібрысы, пячаткі ды ўладальніцкія надпісы.

Паколькі прадмет нашага допісу ня мае багатай літаратуры ў беларускім кнігазнаўстве, мусім крыху спыніцца на тэрміналёгіі. На азначэньне ўсіх відаў паметаў, нататак, пячатак, экслібрысаў і т.п. мы ўжываем назву 'пазнака'. Пад 'паметамі' мы разумеем кожнае зазначэньне, стаўленае пад час або пасьля прачытаньня тэксту і з тэкстам ў непасрэдны спосаб зьвязанае. 'Дэдыкацыя' (ў нашым

выпадку) — гэта від дарчага запісу, які зьмяшчае прысьвячэньне кнігі пэўнай асобе або інстытуцыі. Як сынонім слова 'экслібрыс' мы часам выкарыстоўваем тэрмін 'кніжны знак' які таксама ўжо замацаваўся ў беларускай кнігазнаўчай літаратуры[1]. Розьніца паміж 'пячаткаю' і 'штампавым экслібрысам' палягае ў прызначэньні: экслібрыс (які зазвычай нясе характэрны надпіс "Ex libris ...", "Бібліятэка ...", "З кнігазбору ..." і т. п.) выкананы спэцыяльна для пазначэньня кнігаў; пячатка-ж выробляецца для больш шырокіх мэтаў, а на кнігах ставіцца толькі аказыянальна. 'Лінейным' мы называем штамп (экслібрыс, пячатку), на якім надпіс у радку (радкох) разьмешчаны ў простай лініі. Рэшта іншых тэрмінаў, ужытых ув артыкуле, дакладна адпавядае свайму падставоваму значэньню ў беларускай літаратурнай мове і не павінна выклікаць сумлеваў.

На заканчэньне я хацеў-бы выразіць шчырую падзяку айцу Аляксандру Надсану за зробленыя пасьля прачытаньня рукапісу надзвычай каштоўныя заўвагі, а Ігару Іванову — за дбайлівую дапамогу пры падрыхтоўцы кнігі да друку.

---

[1]Параўн., напр.: Беларускі кніжны знак = Белорусский книжный знак/ Склад.А. Тычына, В. Шматаў. Мн., 1975.; Мінкевіч М. А. Аб сучасным стане беларускага экслібрыса. // Из истории книги в Белоруссии: (Сборник статей). Мн., 1976. С.152-159.

## 1. Аўтарскія і чытацкія паметы ды занатоўкі.

Найранейшым з аўтарскіх (ці, у дадзеным выпадку, хутчэй — выдавецкіх) нататак, а, бадай, і ўвогуле, з беларускіх пазнакаў на кнігах у зборах Бібліятэкі, зьяўляецца ўжо даволі вядомы ў кнігазнаўчай літаратуры надпіс, які ў некалькіх розных варыянтах[2] сустракаецца на раньніх друках Скарыны: «**Я то са стяло някладомъ Богданя Ѻнь / ковичя, Радци мѣстя Виленьского**».[3] У фондах ББФС перахоўваецца канвалют з 5-ці кніг скарынаўскага выданьня, у якім згаданая нататка выступае двойчы. Зроблена яна чорным, выцьвілым ад часу (цяпер ўжо, фактычна, брунатаватым) атрамантам. У першым выпадку нататка месьціцца на апошняй старонцы пераплеценай першаю ў канвалюце *Кнігі Ёва* (паміж канцом тэксту і каляфонам — г. зв. "пасьляслоўем"). Гэтую нататку мы памяшчаем у нашым допісе сярод паметаў з увагі на непасрэдную сувязь яе з каляфонам, які яна дапаўняе.

Іншы варыянт згадыванага надпісу, гэтым разам традыцыйны, надпісаны на тытульным лісьце *Кнігі Ісуса, Сына Сірахава.:* «**Я то са**

[2]Дарэчы,зацытаваны тут варыянт гэтага надпісу даґэтуль ня быў публікаваны (за выключэньнем нашага артыкулу *Autograph Dedications in the Skaryna Library, London* ў выдаванай Англа-Беларускім Таварыствам *Belarusian Cronicle*, 1999-2000, autumn-winter, Nos 9-10) і дасьледчыкам фактычна невядомы. [Ўжо калі гэтая кніжка рыхтавалася да друку, Брытанская Бібліятэка выдала зводны каталёг старадрукаў, што захоўваюцца ў кнігазборах Брытаніі і Ірляндыі (*Cyrillic Books printed before 1701 in British and Irish Collections*. A Union Catalogue/ R.Cleminson et al. S.l.: The British Library, [2000]), дзе таксама апублікавана згаданы надпіс..— Зацем. аўт.]

[3]Нататка дастасавана да сучасных нормаў пунктуацыі; уведзена разьбіўка на словы і зазначэньне вялікіх літараў у імёнах уласных. Ув арыгінале разьдзяленьне словаў прысутнічае толькі між: "-онь /ковича" і "Радци-" (праз цэнтральную кропку). Такое разьдзяленьне, між іншым, зьяўляецца дадатковым аргумэнтам за слушнасьцю прачытаньня іншага варыянту гэтага надпісу Г. Галенчанкам, які аднёс слова 'сына' да "Онькава", а не да "радцы" (гл. працу названага дасьледчыка *Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар*. Мн., 1993. С.153).

Книга

Двесте четыредесять и осмь . И виделъ есть
Иовъ сыны своя , И сыны сыновъ своихъ
даже до четвертого роду . И умре
Иовъ старъ и исполненъ
дней

| Итоеса сталонакладомъ богданаѡн |
|---|
| ковича . радцим҇еставиленьского |

Скончалася книга сия , святого Иова . С помощию бога в троици единаго . Повелениемъ працею и выкладомъ . Избранного мужа в лекарскыхъ наукахъ доктора франциска , Скорины с Полоцка . У старомъ месте Празскомъ лета по нарожению г҇да нашего і҇с х҇ра сына божия , из пречистыя девици матери божии Марии
Тысечного пятсотого и седмагонадесет
месяца септевриа дня десятого . 1517
Ему жето буди хвала честь и поклонение со отцемъ
и святымъ духомъ , ныне и всегда и во веки веков
Аминь

Надпіс на Кнізе Ёва скарынавага выданьня

Итоеса сталонакладомъ богданаѡн
ковича . радцим҇еставиленьского

стяло някладо̆ богдяня, о̆н҆кова сыня, / рядци места виленьского.»[4]. Гэтая нататка дапісана зьнізу пад Скарынавай прадмовая і стылістычна (дый графічна) зьяўляецца ейным заканчэньнем. Нягледзячы на тое, што пісьмо, як і ў папярэднім выпадку, стылізавана пад скарынаўскі шрыфт, пісана яна, бяз найменшага сумненьня, іншай рукой. Так, у пачатковым 'я' гэтага надпісу колца знаходзіцца прыкладна пасярэдзіне літары, тады, як у першай нататцы яно паднята вышэй, а ножка літары мае іншую форму; 'р' у слове «радца» мае больш акруглае колца і г.д. Фактычна, адрозьніваецца напісаньне ўсіх літараў, але далей гэта менш заўважна з прычыны выкарыстаньня ў першым выпадку малых літараў, а ў другім — вялікіх. Відаць таксама розьніцы ў артаграфіі ('места' зь 'ѣ' і зь 'ε', радковае і вынасное напісаньне некаторых літараў: "някладомъ" і "някладо̆") і інш.

Паводле некаторых дасьледчыкаў, гэты надпіс мог быць зроблены на кнігах уласнаручна самім друкаром[5]. Нам, аднак, здаецца гэта вельмі сумнеўным. Ужо адно тое, што два нашыя запісы рабіліся рознымі асобамі, сьведчыць, што Скарына мусіў даверыць гэтую працу камусьці са сваіх памагатых (калі ўвогуле гэта ўсё пісалася ня ў Вільні). Да таго-ж, і артаграфічныя асаблівасьці дадаюць аргумэнтаў на карысьць таго, што ніводзін з прадстаўленых варыянтаў не належыць пяру Скарыны (напрыклад, ув абодвух надпісах брак разьбіўкі на словы, а паўсюль у тэксьце скарынаўскага перакладу зьлітна выдрукаваны толькі прыназоўнікі і саюзы з назоўнікамі; паміж-жа усімі іншымі словамі пакідаюцца прабелы).

Апрача двох паказаных вышэй надпісаў на скарынавых друках са збораў Бібліятэкі прысутнічаюць і іншыя паметы: апошняя кніга з гэтага канвалюту, *Прыслоўі Саламона-цара*, нясе чытацкія паметы на азначэньне паасобных сэнтэнцыяў (звычайна, гэта крыжык чырвоным атрамантам пры канцы і/ці пачатку прыслоўя, або, часам, ўзяты ў кола і вынесены на маргінэс). Такім чынам вылучана больш за 30 прыслоўяў. Трэба думаць, гэтыя паметы належаць

---

[4]Гэты запіс мы таксама падаем з уведзеным разьдзяленьнем словаў, якое цалкам адсутнічае ўв арыгінале.

[5]Параўн., напр.: Шматов В. Ф. Исскуство книги Франциска Скорины. Москва, 1990. С.52.



Книга Ісуса Сірахова рекомая
панаретос Еклесіастыкус или
церковник · з уполне выложе
на на руский язык · докто
ромъ Францискомъ Скориною с Полоцка :·
[illegible]
радци места Виленьского.

Старонка Скарынаўскае Кнігі Ісуса, Сына Сірахава з надпісам пра накладцу выданьня

сьвятару, які рыхтаваў казаньні пры дапамозе нашай кнігі. Датаваць паметы не ўяўляецца магчымым.

Канвалют быў куплены на аўкцыёне ў Лёндане ў 1997 г. дзякуючы інфармацыі, знойдзенай Сяргеям Шупам.

На некаторых іншых старадруках са збораў Бібліятэкі сустракаюцца таксама паметы з ХУІІ-ХУІІІ стст., але іх, найчасьцей, немагчыма ані расчытаць з ўвагі на кепскі стан захаванасьці, ані зьвязаць зь нейкай канкрэтнай гістарычнай асобай. Напрыклад, наш асобнік *Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.* (3-е выд., Вільня, к. 1594-1595) вельмі цікавы сваімі маргіналіямі ХУІІ і ХУІІІ стст., сярод якіх багата паметаў зьвязаных з тэкстам *Статута*, а таксама — засьцерагальных надпісаў-праклёнаў польска-беларускай трасянкай, як, напрыклад: "Kto Ten statut ukradnie temu Ręka po łokoć odpadnie", л. 43 (оГ).

Іншыя, зыдэнтыфікаваныя, беларускія паметы ў калекцыі ББФС паходзяць ужо з часоў пазьнейшых, галоўным чынам, з ХХ ст. Найчасьцей гэта звычайныя падкрэсьленьні або маргінэсавыя значкі. Сярод прыналежных выбітным асобам назавем некалькі.

Занатоўка рэцэнзійнага характару ды паметы гісторыка, фальклярыста і бібліяфіла Аляксандра Ельскага знаходзяцца на старонках *Przewodnika po Litwie i Białejrusi* Н. Роўбы (2-е выд., Вільня, бдв. [1910?]). Трэба зазначыць, што навуковец меў даволі неразборлівы почырк, і ягоныя запісы вельмі складаныя для расчытаньня[6]. Тэкст згаданае нататкі, як здаецца, наступны: "Publikacja bardzo problematyczna, / nieobejmująca nawet setnej części tego, co ważnoby / było wydac i objaśnić na zakreślanej połaci / Kraju. [...][7] taki drobiazg niczego prawie nieznaczący / A. J.". Паметы-ж пераважна складаюцца з падкрэсьліваньняў ды зазначэньняў рознакаляровымі алоўкамі, а таксама — з рэдкіх атрамантавых маргіналіяў. Напрыклад, у канцы артыкулу "Jakubów" (с. 79) дапісана: "Parczewskich X[iążąt].", а ўнізе старонкі дададзена: "X. Konstanty

[6]На гэтую акалічнасьць, да слова, зьвяртаюць увагу і іншыя дасьледчыкі кніжных пазнакаў Ельскага, спрабуючы вытлумачыць яе старым векам навукоўца (Параўн.: Сільнова Л. Ельскі. Ельскага. Ельскаму... // Дзеля блізкіх і прышласьці: Матэрыялы міжнар. навук.-практ. канф. "Універсітэты Ельскіх" (да 165-годдзя з дня нараджэння А.Ельскага; Мінск, 7 кастр. 1999 г.). Мн., 1999. С.76-85.

[7]Не чытаецца.

PRZEWODNIK

PO

Litwie i Białejrusi

ZEBRAŁ I OPRACOWAŁ

N. ROUBA.

WYDANIE II c.



WILNO.

WILNO.

Тытульны ліст "Przewodnika po Litwie i Białejrusi" Роўбы з пазнакамі Аляксандра Ельскага

Parczewski w w. XIX miał w Jakubowie ..."— канец нататкі страчаны пры абразаньні пад пераплёт.[8]

Чытацкія паметы айца Вінцэнта Гадлеўскага[9] на лацінскамоўным *Кодэксе кананічнага права* ( *Codex iuris kanonici.* Friburg - Ratisbona, MCMXVIII) зроблены простым алоўкам ў 1918 г. або пазьней. Гэта, пераважна, падкрэсьленьні ды зазначэньні на палёх, зрэдку — кароткія занатоўкі. Хаця ў сваёй службовай карэспандэнцыі а. Гадлеўскі часам цытуе *Кодэкс*[10], зьвязаць наяўнасьць паметаў зь нейкім канкрэтным выпадкам пакуль не ўдалося. Быць можа, пазьнейшыя гісторыкі царкоўнага права на Беларусі зьвернуць на іх адмысловую ўвагу; мы-ж, аднак, спэцыяльна засяроджвацца ня будзем, паколькі важнай у бібліяграфічным сэнсе інфармацыі яны не нясуць.

Аловачныя пазнакі Антона Адамовіча на кнізе М. А. Дмітрыева *Собраніе пѣсенъ, сказокъ, обрядовъ и обычаевъ крестьянъ Сѣверо-Западнаго края* (Вільня, 1869), якія належаць, праўдападобна, да часу ягонае вяцкае высылкі ў 1930-х гг., несумненна зацікавяць гісторыкаў літаратуры ды мовазнаўцаў. Яны таксама у большасьці ўяўляюць зь сябе падкрэсьленьні ды зазначэньні на маргінэсе пэўных словаў або фразем. Выключэньнем зьяўляецца вельмі інфарматыўная і дакладная (мара бібліёграфа!) нататка Адамовіча на фарзацы выданьня, якая па сваіх характатыстыках лучыць рысы дэдыкацыі і ўласьніцкага надпісу, але таксама дае і сьведчаньне пра аўтарства паметаў: "Гэтую / кнігу, у ліку / іншых, пакінуў мне / нябошчык Максім Гарэцкі, калі ў 1935 г. быў / «вызвалены» ад ссылкі й пакідаў / месца яе, г. Кіраў (б. Вятка)[11], дзе я й / яшчэ два сябры (Адам Бабарэка й Генадзь / Багдановіч) заставаліся яшчэ на працягнуты нам / тады тэрмін тае ссылкі яшчэ на два гады. Выпадкам

---

[8]Надалей заўважым, што, на вялікі жаль, не адна каштоўная нататка ў нашай калекцыі пашкоджана падобным чынам. Няма, аднак, ў тым віны Бібліятэкі, бо ўсе кніжкі з абрэзанымі дэдыкацыйнымі або іншымі надпісамі паступілі да нас ўжо ў такім выглядзе.

[9]Аб прыналежнасьці паметаў а. Гадлеўскаму сьведчыць падабенства почарку паметаў да почарку ягонага ўласьніцкага надпісу на дадзенай кнізе.

[10]Гл., напр., ягоныя лісты да віленскага біскупа Ю. Матулевіча: Zatarg o język kazań w Żodziszkach // Białoruskie Zeszyty Historyczne (Białystok). 1998. №10. S.124-165.

[11]Максім Гарэцкі быў вызвалены 21 чэрвеня 1935 г. У жніўні ён выехаў у Смаленск, дзе атрымаў прызначэньне на пасаду настаўніка ў Пясочню.

/ адна гэтая кніга перахавалася ў мяне дасюль, і невясёла /мне зь ёю расставацца, як з памяткаю пра аднаго з тых, / каго я найбольш любіў і шанаваў і хто фармаваў мяне / ад юнацкіх год, але хіба ў нашай Скарынінскай бібліятэцы яна пэўней і даўжэй перахаваецца, як у мяне. / Ант. Адамовіч / 5 студзеня 1976 г. / Лёндан. / Падкрэсьленьні й нататкі / ўсюды мае, а ня М. Г."

Як гэта відаць з тэксту нататкі, кніга была перададзена ў ББФС самім Антонам Адамовічам у 1976 годзе пад час прыезду ў Лёндан.

Кастусь Езавітаў на кнізе Я. Найдзюка *Беларусь ўчора і сяньня* (Менск, 1944) ужывае цэлую сыстэму разнастайных зазначэньняў ды падкрэсьліваньняў (простым ці чырвоным алоўкам, або, таксама, чорным атрамантам). Свае паметы Езавітаў нярэдка суправаджае камэнтарамі (працытуем, да прыкладу, некаторыя зь іх: "Ня «выра /дзілася», а вытва / рылася, бо / «вырадак» і «вырадзіцца» зусім іншыя / рэчы", с. 10; "«Крывы» азначае ня «крыв[іц]кі», а — крывічы, множны лік ад «крывіч», а ня «крывіцкі»", с. 14; "Я быў праў, ка /лі пісаў аб «маленькай, але прагнай Ліцьве» у *Бѣлорусы и поляки* у 1919 годзе, а таксама у брашуры *Беларусы у Ліцьве* , 1932 г.", с. 242.) Відавочна, што ягоныя нататкі рабіліся не так дзеля ўласнага карыстаньня, як з разьлікам на іншага будучага чытача кнігі. Выданьне было падорана ББФС Барысам Сачанкам.

Яшчэ адна кніга, выдадзеная ў Менску ў 1944 годзе — *Kруці, ня круці — трэба памярці* Францішка Аляхновіча (выданьне, якое ў даведніку *Беларускія пісьменнікі* нават ня ўзгадваецца!) — нясе шэраг паметаў, гэтым разам, праўда, дакладна не зындэфікаваных. Яны ўяўляюць зь сябе, галоўным чынам, стылістычныя праўкі тэксту, і ёсьць пэўны шанс, што належаць самому Аляхновічу, які быў забіты ў сакавіку 1944 г., а таму цалкам магчыма, што мог ужо па выхадзе кніжкі трымаць яе ў руках. На жаль, даказаць гэта складана, бо праўкі пераважна зроблены дробнымі друкаванымі літаркамі, па якіх цяжка меркаваць аб асаблівасьцях почарку. Паходжаньне выданьня высьвятліць ня ўдалося.

А. Язэп Гэрмановіч часам правіў свае колішнія, яшчэ пад Польшчай выдадзеныя творы, устаўляючы нярэдка цэлыя радкі, як гэта добра заўважна на ягоным перастварэньні пушкінскай рэчы — *Казка аб рыбаку і рыбцы* (Вільня, 1935).

Славнай Біблятэры Францішка Скарыны ў Лёндане — no

*Slaŭnaj Biblijatery*
*Franciška Skaryny*
*ŭ Londanie*
*na viečnuju pamiatku*
*aŭtar*
*a. Hermanovič*
*20-I-1971.*

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny ŭ Vilni.





I.

**Dzied i baba.**

Žyŭ stary-stary dziadula,
Z im kryvieńkaja babula:
Žyli razam, hetym znakam,
Hadoŭ tryccać try i z hakam
Mieli chatačku maleńku,
Ziamloj krytuju, błahieńku;
Toje-sioje ŭ starojchacie —
Heta ~~ichne~~ *Usich* ŭsio bahaćcie!
Dy jašče było karyta
Pałamana i pabita.

Była chata z kraju mora,
Mnoha mieli biady, hora:
Jak toj kaža, dziadok hety
Rybakom byŭ doŭhi lety..
Čałaviečak jon byŭ bożу:
Mieŭ i nievad i miarožy,
Łodku, sietki, inšy snašci.
Žonka ŭmieła tolki prašci:
Časam doŭha-doŭha prała,
Pakul nosam zakivała.

Raz babula kaža dziedu:
„Złavi rybki dla abiedu!"
*„Nadta-ž rybku ja lublu..."*
*Kaža dzied: „Złaŭlu, złaŭlu!"*

Дэдыкацыя і аўтарская паметы на "Казцы аб рыбаку і рыбцы" а. Я. Гэрмановіча

Паметы а. Льва Гарошкі на беларускім перакладзе *Новага Запавету* (Гэльсінгфорс, 1931) зроблены рознакаляровымі алоўкамі і датычаць, галоўным чынам, тэкстаў, адбіраных ім для нядзельнага чытаньня пад час літургіі. Такія тэксты ён вылучаў даўгімі квадратнымі дужкамі на палёх, нярэдка зазначаючы старонку паралельнага чытаньня зь іншае кнігі. Прысутнічаюць, таксама, і праўкі перакладу; напр., у *Рым 5,4* (с. 232 названага выданьня) скрэсьлена: слова "ганьбіць", а на палёх дапісана: "засаромлівае").

Вельмі цікавымі ў фактаграфічным пляне ўяўляюцца абшырныя польскамоўныя занатоўкі а. Тамаша Падзявы на палёх кнігі польскага шавіністычна настроенага ксяндза К. Ю. Бародзіча *Kresy polskie w niebezpieczeństwie*, выдадзенай у Вільні бяз даты выхаду (1930 г.?). У гэтых нататках айцец Падзява галоўным чынам абвяргае сфальшаваныя абвінавачваньні, якія аўтар высоўвае ўв адносінах беларускіх сьвятароў. Напрыклад, на с. 60 пры абзацы, у якім апісваецца "спроба" а. Андрэя Цікоты атруціць кс. Бародзіча зазначана: "Oszczerstwo udowodnione Sądem Arcybiskupim i nigdy nie odwolane." Напрыканцы кнігі месьціцца вялікі запіс-зварот а. Падзявы да чытачоў: "Czytelników tej książki, która w dwóch / pierwszych wydaniach nosiła tytuł / "Kresy wschodnie w niebezpieczeństwie" / proszę uprzejmie o nieoddzielanie / jej od moich wspomnień osobistych / o ś. p. O. Andrzeju Cikoto, do których / załączam ją jako dokument / historyczny./ Ks. Tomasz Podziawo MIC / Warszawa, dn. 26.08.1961 r. / P.S. To trzecie (prawdopodobnie) / wydanie jest nieco staranniej / opracowane, a w każdym razie / różni się znacznie od dwóch / poprzednich przez ton mocno/ złagodzony."

## 2. Аўтаграфічныя дарчыя і дэдыкацыйныя запісы

Калекцыя дэдыкацыяў лёнданскае Беларускай Бібліятэкі налічвае некалькі сотняў аўтографаў; шмат зь іх належаць сучасным літаратарам, навукоўцам ды дзеячам культуры, і мы іх тут разглядаць ня будзем. Адным з найранейшых дарчых надпісаў, зьвязаных з беларускай тэматыкай, зьяўляецца дэдыкацыя славутага віленскага архівіста, пачынальніка беларускае археаграфіі і архівістыкі, Мікіты Гарбачэўскага. Складальнік шэрагу незаменных дагэтуль дапаможнікаў[12], ён сьціпла надпісаў свае выдадзеныя ў 1867 годзе ў Вільні *Краткія табліцы, необходимые для исторіи, хронологіи, вообще для всякого рода археологическихъ изслѣдованій...*: "Адольфу Осиповичу Патеру отъ составителя."

Іншая цікавая дэдыкацыя зь XIX ст. належыць аўтару першага грунтоўнага дасьледаваньня пра Скарыну П. Ул. Уладзіміраву (якога ЭЛіМБел называе адным з заснавальнікаў беларусазнаўства, — гл.: т.5, с.359) на гэтым-жа ягоным творы — *Докторъ Францискъ Скорина. Его переводы, печатныя изданія и языкъ.* ([СПб], MDCCCLXXXVIII): "Многоуважаемому / Станиславу Львовичу / Пташицкому. /Владиміровъ / на добрую память." Як бачым, запіс адрасаваны С. Л. Пташыцкаму[13] — прагнаму дасьледчыку пісьмовых помнікаў Вялікага Княства Літоўскага, у т. л., *Літоўскай Мэтрыкі* і *Статуту ВКЛ.* Аўтограф, на жаль, не датаваны; але мусіў быў быць

---

[12]У т.л. выдадзенага ў 1874 г. у Вільні унікальнага *Словаря древняго актоваго языка Сѣверо-Западного края і Царства Польскаго*, адзін з асобнікаў якога таксама перахоўваецца ў зборах нашае Бібліятэкі.

[13]Трэба адзначыць, што ў нашых фондах захоўваецца яшчэ адна кніга са збору Пташыцкага — *Elekcja Zygmunta I* аўтарства L. Finkela (Кракаў, 1910), якая нясе на тытульным лісьце адбіты чырвоным штамп дасьледчыка: "Stanisław Ptaszycki". Апроч таго на кнізе ёсьць пазнакі Бібліятэкі Люблінскага Каталіцкага Унівэрсытэту, у якую, трэба думаць, выданьне патрапіла непасрэдна ад самога навукоўца, які выкладаў у гэтай вучэльні дапаможныя гістарычныя дысцыпліны.

Многоуважаемому
Станиславу Львовичу
Пташицкому
на добрую память
П. Владимiровъ

ДОКТОРЪ

# ФРАНЦИСКЪ СКОРИНА

ЕГО ПЕРЕВОДЫ, ПЕЧАТНЫЯ ИЗДАНІЯ И ЯЗЫКЪ

ИЗСЛѢДОВАНІЕ

П. В. ВЛАДИМІРОВА



MDCCCLXXXVIII

Дэдыкацыйны надпіс Пятра Ўладзімірава

Многоуважаемому
Станиславу Львовичу
Пташицкому
на добрую память
П. Владимiровъ

зроблены паміж 1888 і 1902 гг., то бо годам выхаду кнігі і годам сьмерці Ўладзімірава. Выданьне было набытае для нашае Бібліятэкі к. 1972 году ў букіністычнай кнігарні ў Мюнхэне.

Яшчэ аднаму выбітнаму дарэвалюцыйнаму навукоўцу-беларусазнаўцу — Мікалаю Янчуку — прысьвечаны надпіс на кнізе фальклярыста, этнографа і гісторыка, шматгадовага старшыні Віленскае Археаграфічнае Камісіі Юльляна Крачкоўскага *Бытъ западно-русскаго селянина* (Масква, 1874): "Николаю Андреевичу / Янчуку / въ знак глубокаго уваженія. / Вильна / 20 Янв. 1891.". Побач месьціцца і лінейны штамп з імям адрасату: "Николай Андреевич Янчук", які сьведчыць, што выданьне прынамсі нейкі час захоўвалася ў кнігазборы апошняга.

Аўтарская дэдыкацыя Канстанцыі Скірмунт, сваячкі вядомага дзеяча беларускага адраджэньня парэвалюцыйнага часу Рамана Скірмунта і аўтаркі некалькіх кніжак, знаходзіцца на выданьні *Nad Niemnem i nad Bałtykem w zaraniu dziejów* (Варшава, 1897?): " *W[ielmożnej] p[ani]. Janinie Przebyszewskiej / z wdzięcznością za pracę / dla Polesia Autorka*".

На жаль, не захавалася цалкам аўтарская дэдыкацыя на кнізе асьветніка, літаратара і бібліёграфа Рамуальда Зямкевіча *Ян Баршчэўскі: Першы беларускі пісьменьнік XIX сталецьця*, што была выдадзеная ў 1911 годзе у Вільні. Ў моцна пашкоджаным пры абрэзцы запісе зь вялікай цяжкасьцю можна расчытаць адно апошні радок: "...на добрую памяць / Р. Зямкевіч / Варшава / 14.V.1939". Магчыма, што гэта адзін з апошніх дарчых надпісаў Зямкевіча; праз некалькі год сам аўтар, як і ягоны багаты кнігазбор, згінуць у завірусе вайны. На жаль, сёньня немагчыма выявіць асобу, якой дэдыкацыя была адрасаваная; наш асобнік паходзіць са збораў арганізацыі беларускіх работнікаў у Францыі "Хаўрус".

Вялікую цікавасьць выклікае дэдыкацыя іншага дасьледчыка нашага пісьменства, гісторыі і культуры, дзеяча беларускага адраджэньня Вацлава Ластоўскага, якая знаходзіцца на асобніку ці не найважнейшай ягонае працы — бібліяграфіі *Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі* (Коўна, 1926) — і адрасавана ўкраінскаму палітыку Я. Вілейтылу: "Яго Дастойнасьці / Пану Яну Вілейтылу/ аўтор / В. Ластоўскі / 16.V.1926". Надпіс указвае на наяўнасьць сувязяў паміж беларускімі і ўкраінскімі дзеячамі на эміграцыі, а таксама дае магчымасьць удакладніць дату выхаду


В. Ластоўскі

Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі

1926

Дэдыкацыя Вацлава Ластоўскага Яну Вілейтыму на фарзацы "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі"

Яго Дастойнасьці
Пану Яну Вілейтыму
аўтар
В. Ластоўскі
16.V.1926.

кнігі ў сьвет — не пазьней за сярэдзіну траўня 1926 г. Асобнік з дэдыкацыяй быў перададзены Бібліятэцы ў 1974 г. беларускім эмігрантам-бібліяфілам з Нью-Ёрку, нябожчыкам Міколам Паньковым[14].

Іншая кніга роднаснае тэматыкі і ня менш вядомая (хоць зьяўляецца адно падручнікам) — *Гісторыя беларускай літаратуры* Максіма Гарэцкага (2-е выд., Вільня, 1921) — надпісана наступным чынам: "Паважанаму аўтару першага на бе- /ларускай мове курсу фізыкі[15] інж. / А. Нэканда-Трэпка / М. Гарэцкі / 1/II-1922. / Вільня." Прасачыць паходжаньне дадзенага асобніка, на жаль, не ўяўляецца магчымым, як і шэрагу іншых кніг, пра якія мы будзем казаць ніжэй.

Аўтограф вядомага дасьледчыка беларускае літаратуры, расейца з паходжаньня, Івана Замоціна, прысутнічае на апублікаванай асобна адбітцы з ягонага ўступнага артыкулу да 2-га тому акадэмічнага выданьня твораў Максіма Багдановіча. Публікацыя гэтая носіць тытул *М. Багдановіч. Крытычна-біографічны нарыс* і была выдадзеная ў 1929 годзе ў Менску; дэдыкацыя на ёй даволі тыповая:: "Глубокоуважемому / П. С. Богословскому / С благодарностью за пом[ощь?] / от автора".

На адбітцы артыкулу яшчэ аднаго інбелкультаўца — гісторыка і археографа Зьмітра Даўгялы *Магілеўскае "брацтва прасалаў"* (Бвд., з выд.: *Гістарычна-археалягічны зборнік*. No 1. 1927. С. 121-129) захаваўся дарчы надпіс: "Высокочтимому / Н. Т. Дружинину / на добрую память / от автора / Дм. Довгяла / 30/III 1929."

Дэдыкацыі розным асобам прысутнічаюць на некалькіх выданьнях падрыхтаванай Кастусём Езавітавым чытанкі *Беларуская школа:*

---

14Да слова, ня гледзячы на даволі вялікую колькасьць перададзеных Паньковым у ББФС кніг, намі выяўлена толькі некалькі зь ягонымі пазнакамі. На адной (*Инструкція церковнымъ старостамъ*. Масква, 1904) ягоная ўласнасьць зазначана штампам "M Pankou". Яшчэ адна, аўтарства С. Трайніцкага, (Notitivncvla Heraldica: Гербовые девизы русскаго, польскаго, финляндскаго и прибалтийскаго дворянства. Petropolis, MDCCCCX) у некалькіх месцах нясе арыгінальны экслібрыс: чорным — на фоне паходні і вянка надпіс " PANKOU". Падобная-ж пазнака, толькі ў барвовым колеры, месьціцца на кнізе З. Удавішэўскага *Genealogia Jagiellonów*. (Варшава, 1968), а таксама, на некаторых іншых.

15Магчыма, тут маецца на ўвазе падручнік А.Трэпкі *Фізыка: Мэханіка. Цяплыня. Курс VI клясы гімназіі* (Вільня, 1922), асобнік якога таксама прысутнічае ў фондах ББФС, але, на жаль, безь якіх-небудзь пазнакаў.

Асобнік "Гісторыі беларускае літэратуры" Максіма Гарэцкага з дэдыкацыяй для інжэнэра Антона Неканды-Трэпкі

МАКСІМ ГАРЭЦКІ.

Паважанаму аўтару перш[illegible] а на беларускай мове [illegible] інж. А. Неканда-Трэпка.

1/I 1922.
Вільня.

М. Гарэцкі.

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЕ ЛІТЭРАТУРЫ

ВЫДАНЬНЕ ДРУГОЕ (ПАПРАЎЛЕНАЕ).



ВЫДАНЬНЕ «ВІЛЕНСКАГА ВЫДАВЕЦТВА» Б. КЛЕЦКІНА.

Друкарня «Віленскага Выдавецтва» Б. Клецкіна.
ВІЛЬНЯ — 1921.

Паважанаму аўтару перш[illegible] а на беларускай мове [illegible] інж. А. Неканда-Трэпка.

1/I 1922.
Вільня.

М. Гарэцкі.

*Першая пасьля лемантара кніга для чытаньня* . Так, на першым выданьні (Рыга, 1926) месьціцца пасьвячэньне: "Яго Міласьці / Высокапаважанаму Грамадзяніну К. Дэкэпсу / Сябру Латвійскага Дзяржаўнага Сойму / ад аўтара — К. Езавітаў." Асобнік гэты быў падораны Бібліятэцы ў 1998 г. у Менску.

Іншы аўтограф К. Езавітава знаходзіцца ўжо на трэйцім выданьні (з 1943г.): "Даражэнькаму сябру Антону Адамовічу на / добры ўспамін і крытычны разгляд пасылае гетую чытанку з далёкае Рыгі ў ня менш далёкі Бэрлін шчыра шануючы аўтар. / 17.XI.1943 / Рыга / К. Езавітаў. / Дужа цешуся, што чытанка гетая выйшла з / друку якраз у дзень майго 50-годзьдзя." Цяплыня тону гэтае дэдыкацыі ўказвае на сяброўскую блізкасьць адносінаў аўтара і адрасата. Трэба думаць, кніга была перададаная ў ББФС самім Антонам Адамовічам, які нярэдка наведваў "Беларускі цэнтар" у Лёндане.

З падрыхтаваных на чужыне беларускіх падручнікаў пасьляваеннага часу аўтарскую дэдыкацыю нясе выдадзены бяз выходных дадзеных ў 1946 г. у лягеры для дэпартаваных ў Нямеччыну асобаў Рэгенсбург[16] *Беларускі лемантар* А. Радкевіч (у замужжы Савёнак): "Беларускай / бібліятэцы і музэю / імя Францішка Скарыны / у Лёндане / ад аутара / А. Савёнак. / 16-6-1975г."

Вельмі багатая калекцыя аўтографічных дэдыкацыяў ББФС, на надпісы, зьвязаныя зь імёнамі выбітных беларускіх сьвятароў, а таксама на такія, што месьцяцца на выданьнях рэлігійнага характару. Перш за ўсё тут варта назваць адзін з найранейшых сучасных перакладаў біблійных кніг на беларускую мову — выдадзены Брытанскім і Замежным Біблійным Таварыствам (British and Foreign Bible Society) у Гэльсінгфорсе (сёньня: Хельсінкі) ў 1931 г. *Новы Запавет* з дарчым надпісам на асобніку: "У Бібліятэку Айцоў Марыянаў — / ад недастойнага перакладчыка / гэтае Сьвятое Кнігі. / Вільня 29.V.1936 / Ант. Луцкевіч". Асобнік паходзіць з бібліятэкі Дому Студыяў аа. марыянаў у Вільні, зь якой ён трапіў да Рымскага Дому (Domus Romana) Кангрэгацыі, а адтуль — намаганьнямі біскупа Сіповіча — у лёнданскую Беларускую Бібліятэку.

Іншы тагачасны пераклад — гэтым разам толькі часткі навазапаветных кніг — быў зроблены а. Вінцэнтам Гадлеўскім і

---

[16]Паводле вуснай інфармацыі д-ра В. Кіпеля.

# НОВЫ ЗАПАВЕ́Т

## ГОСПАДА НАШАГА
## ІСУСА ХРЫСТА

*

У Бібліятэку Айцоў Марыянаў —
ад недасканалага перакладчыка
гэтае Сьвятое Кнігі.

Вільня 29.V.1936. Ант. Луцкевіч

ГЭЛЬСІНГФОРС
БРЫТАНСКАЕ І ЗАМЕЖНАЕ БІБЛІЙНАЕ ТАВАРЫСТВА
1931

Дэдыкацыя аднаго з перакладчыкаў Новага Запавету Антона Луцкевіча айцам марыянам

апублікаваны ў 1939 годзе ў Вільні пад тытулам *Ćatyry Ewanelii i Apostalskija Dziei.* Адзін з нашых асобнікаў гэтага выданьня нясе дарчы надпіс беларускага дзеяча Антона Цьвячкоўскага ягонаму сябру, пазьнейшаму біскупу і сузаснавальніку ББФС, Чаславу Сіповічу у сувязі з высьвячаньням на дыякана: "Z nahody atrymańnia świančeńniaŭ / Dyakonatu, pryšłamu Apostału Dobrae Nawiny, / baraćbitu za wolu Biełaruskaha Narodu, hetuju / Nawinu u rodnaj vopratcy ad Šaleni[,] / Dziedzinki, Druji pasyłaje z žadańniam, kab prymicju / celebravaŭ i božaje Słowa skazaŭ u Rodnaje Staroncy / Twoj Anton / Vilnia 25-XII-39 h." Аўтарскі дарчы надпіс самога кс. В. Гадлеўскага адрасаваны іншаму вядомаму беларускаму сьвятару, аўтару некалькіх рэлігійных кніг на беларускай мове а. Я. Рэшэцю. Зроблены ён таксама лацінкаю і месьціцца на кнізе *Historyja światаja abo biblijnaja Nowaha Zakonu* (Вільня, 1932): "Darahomu Ks. Jazepu Rešeciu / ad aŭtara. / 23.IX.1933 h." Праўдападобна, гэтае выданьне трапіла у нашыя фонды у складзе кнігазбору біскупа Ўладзіміра Тарасэвіча, уласьніцкі надпіс якога таксама прысутны на тытульным лісьце кнігі.

Асобнік першых кніг Новага Запавету ў сваім перакладзе (*Światаja Evanelia i Apostalskija Dziei.* Rym, 1954) прысьвяціўў айцу Сіповічу іншы сьвятар, Пётра Татарыновіч: "Darahomu a. Česłavu Sipoviču / u znak ščyraj pryjaźni / i supracy / — Pierakładčyk / Rym 29.VI.1955." А адну зь першых сваіх кніжак — томік перакладу твораў Ёргенсана *Prypowieści* (Вільня, 1927) — а. Татарыновіч надпісаў былому свайму парафіяніну Станіславу Бубеню: "Darahomu Stasiuku / majmu dobramu vučniu na pamiatku / achviaruju / ks. P. Tatarynowič / Na čužynie / 1-V-1927". Іншая дэдыкацыя сьвятара месьціцца на выдадзеным у 1934 годзе ў Вільні (а таксама, нібыта, у Львове[17]) Грынкевічавым перакладзе кніжкі Тамаша Кемпійскага *Śledam za Chrystusam* і скіравана, трэба думаць, да а. Антона Падзявы, які дапамагаў яму ў правядзеньні рэкалекцыяў для дзетак беларускае калёніі ў Варшаве: "Darahomu bratu ŭ Chryście / A[n]tuku / na pamiatku praviedzienych rekalekcyjaŭ dla

---

[17]Паколькі ардынар віленскае каталіцкае дыяцэзіі арцыбіскуп Ялбржыкоўскі праводзіў актыўную паланізацыйную палітыку і не даваў дазволу на друкаваньне беларускіх каталіцкіх кніжак, а. Адам Станкевіч мусіў прасіць 'imprimatur' у львоўскага біскупа Яна Бучкі, а пазьней, здаецца, таксама і ў біскупа Андрэя Шаптыцкага, прыхільных нацыянальна-адраджэнскаму руху на Беларусі. У сувязі з гэтым, на шэрагу Станкевічавых выданьняў як месца выхаду пазначана: "Вільня-Львоў".

**Ks. W. HADLEŬSKI**
Mahistar Teolohii.

# HISTORYJA ŚWIATAJA

ABO

## BIBLIJNAJA

# NOWAHA ZAKONU

23. IX. 1933 h.



WILNIA — — — — — — — — — — — — 1932 h.

WYDAŃNIE „BIEŁARUSKAHA KATALICKAHA WYDAWIECTWA"

Тытульны ліст кнігі кс. В. Гадлеўскага "Гісторыя Сьвятая ..." з аўтарскай дэдыкацыяй кс. Я. Рэшэцю і ўласьніцкім надпісам а. Ул. Тарасэвіча.

J. JÖERGENSEN.

# PRYPOWIEŚCI

pierakłaŭ na biełaruskuju mowu

X. P. T.

—

Z partretam aŭtara.

Wydawiectwa „B. Krynicy".

Wilnia
Drukarnia im. Fr. Skaryny.
1927.

Аўтарская дэдыкацыя кс. П. Татарыновіча
на перакладзенай ім кніжцы Ёргенсана "Prypowieśći"

Biełaruskaj Škoły / — achviaruje / udziačny / Ks. P. Tatarynovič. 2.IV.- 44.". Гэты асобнік быў прывезены для Бібліятэкі з Рыму а. Чэславам Сіповічам.

Пераклад Сьвятога Пісьма Янкі Станкевіча — выдадзеная ў 1973 г. у Нью-Ёрку *Сьвятая Бібля* — нясе аўтарскую (што праўда, ананімную, але лёгка ідэнтыфікаваную з мовы і тэксту) дэдыкацыю: "Кніжні Вялікалітоўскай / Пранціша Скарыны ў Лёндане, / каб чытары вучыліся добрае / мовы вялікалітоўскае. / Задзіночаныя Гаспадарствы Амэрыкі. / 14.XI.74".

Надпіс на ўнікальным *Краёвым слоўніку Чэрвеншчыны* М.Шатэрніка (Менск, 1929) — гэта дэдыкацыя аднаго з сурэдактараў слоўніка, выдатнага лінгвіста Браніслава Эпімах-Шыпілы, адрасаваная дзеячу нацыянальнага руху на Заходняй Беларусі сьвятару В. Шутовічу, зь якім Эпімах-Шыпіла знаходзіўся ў сяброўскіх адносінах і перапісваўся. Тэкст запісу наступны: "Paważanamu ks. Wiktaru Šutowiczu ad Br. Epimacha-Šypiły / Miensk 19 11/XII 29". Слоўнік быў падараваны Бібліятэцы ў 1974 г. у Нью-Ёрку пісьменьнікам Юркам Віцьбічам.

Аўтограф а. Адама Станкевіча прысутнічае толькі на аднэй з шэрагу ягоных кніг, што зьберагаюцца ў ББФС. Ён месьціцца на выданьні: *Božaje słova* (Львоў - Вільня, 1938): "Darahomu Ajcu / Andreju Cikota / Jenerału A. A. Maryjanaŭ / Vilnia, 19/V-1938 / Aŭtar — Ad. Stankevič"

Дэдыкацыю біскупа Часлава Сіповіча як выдаўцы, нясе навукова-крытычная публікацыя беларускіх літургічных тэкстаў ХУІІ ст. *The Byzantine-Slavonic Liturgy of St. John Chryzostom.*, выдадзеная ў 1978г. ў Лёндане: "Нястомным працаўнікам на / беларускай ніве і дарагім маім / прыяцелям ахвяруе аўтар. / + Ч. Сіповіч / Лёндан, 17 сьнежня 1978. " Самому а. Сіповічу задэдыкаваны шэраг самых розных кніжак Адным з найбольш цікавых надпісаў зьяўляецца аўтограф буйнейшага ў сьвеце спэцыяліста па царкоўнай геральдыцы арцыбіскупа Б. Б. Хайма на ягонай кнізе *Heraldry in the Catholic Church: Its Origin, Customs and Laws* выдадзенай ў 1978 г. без азначэньня месца выхаду: "To Bishop Ceslaus Sipovič / from / Bruno B. Heim / 21 Dec.1978." Цікава адзначыць, што ў гэтай кнізе пры апісаньні геральдычных традыцыяў Грэка-каталіцкае царквы выкарыстаны біскупі герб Сіповіча (гл. сс. 130-131).

Біскуп Уладзімір Тарасэвіч падараваў ББФС працу Антановіча і Іlавайскага *Исторія Великого Княз̂ѣства Литовского* (Тернополь,

БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК
АДДЗЕЛ ГУМАНІТАРНЫХ НАВУК
КАМІСІЯ ДЛЯ ЎКЛАДАНЬНЯ СЛОЎНІКА ЖЫВОЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

*Pawažanomu ks. Wiktaru Šutowiču*
*ad Br. Epimacha-Šypily*
*Miensk 19/XII 29.*

# КРАЁВЫ СЛОЎНІК
## ЧЭРВЕНШЧЫНЫ

Уклаў
М. В. ШАТЭРНІК

Пад рэдакцыяй
М. Я. Байкова і Б. І. Эпімаха-Шыпілы



МЕНСК — 1929
ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК

"Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны" М. Шатэрніка
з дэдыкацыяй сурэдактара Б. Эпімах-Шыпілы для кс. В. Шутовіча

*Pawažanomu ks. Wiktaru Šutowiču*
*ad Br. Epimacha-Šypily*
*Miensk 19/XII 29.*

1887), што замацаваў дэдыкацыйным надпісам зь дзіўнай артаграфіяй: "У Беларускую Лонданскую / Библиатэку ахвярую / а.Ул.Тарасевич / 31/VIII/1976 г."

Некалькі сваіх кніжак з розных часоў (выдадзеных як пад уласным імём, так і пад псэўданімам Вінцук Адважны) надпісаў для ББСФ а. Язэп Германовіч. Усе гэтыя дэдыкацыі датуюцца лёнданскім пэрыядам жыцьця сьвятара і складзеныя паводле тэй самай фармулёўкі, як, напрыклад, надпіс на кнізе ягоных успамінаў *Кітай-Сібір-Масква* (Мюнхэн, 1962): "Бібліятэцы Францішка Скарыны / ў Лёндане — на лепшы успамін —/ аўтар / а. Язэп Гэрмановіч / 20-I-1971".

Яму самому адрасаваны аўтарскі дарчы надпіс беларускага культурнага і хрысьціянскага дзеяча на чужыне Вацлава Пануцэвіча на кнізе *Jazafat, Archijap. połacki. 1623-1963* (Чыкага, 1963). Аўтограф не датаваны, але, праўдападобна, паходзіць з 1974 г., калі а. Язэп наведаў Амэрыку і сустракаўся з тамтэйшымі беларускімі дзеячамі. Яму-ж, таксама, пасьвечаны і значна ранейшы надпіс, які паходзіць яшчэ з міжваеннага часу — дэдыкацыя на выдадзеным Рыгорам Шырмам у 1938 годзе ў Вільні зборніку вершаў Максіма Танка *Пад мачтай*: "Паважанаму Грамадзяніну / і паэту Вінцуку Адважнаму/ за яго індыйскаға слана, дзякуючы якому і гэты зборнік / пралез праз цэнзуру — /Аўтар / Вільня 2-III. 38 г." Шкода, але зараз амаль немагчыма высьвятліць, алюзію да якіх падзеяў хаваюць гэтыя словы. Дарэчы, цікава зазначыць, што Максім Танк часта ў сваіх дэдыкацыях выкарыстоўваў падобнае мянаваньне адрасату — "Паважаны Грамадзянін" — ці тое навязваючы да традыцыі паўстанцаў Каліноўскага, ці тое проста ў працістаўленьне ідэалягічна чужому для яго выразу "пан".

Апрача названага, у Бібліятэцы захоўваюцца яшчэ адзін асобнік гэтага-ж зборніка *Пад мачтай*, надпісаны аўтарам для беларускага дзеяча ў міжваеннай Польшчы П. Ластаўкі: "Паважанаму Грамадзяніну / Пётру Ластаўцы / як успамін з этапнай бела- / рускай літаратурнай нівы — / Максім Танк / Варшава 3.XII. 39." Гэтаксама і іншая кніжка М. Танка з таго пэрыяду — выдадзены ў 1937 годзе ў Вільні зборнік *Журавінавы цьвет* нясе аўтарскую дэдыкацыю, адрасаваную той-жа асобе: "Пятру Ластаўцы / з шляхоў літаратурных і з спаткань- / няў — Аўтар / Варшава 1939 г."

Паважанаму Грамадзяніну
і пану Вінцуку
Адважнаму
за яго індыйскае слова, дзякую-
чы якому і гэты зборнік
прайшоў праз цэнзуру —
Аўтар
Вільня 2-VII-38.

# ПАД МАЧТАЙ

*Люблю стаяць пад цяглай соснай,*
*пад мачтай быццам залатой,*
*і плыць туды, дзе звоняць вёсны, —*
*плыве і край ўвесь за табой.*

Аўтарская дэдыкацыя Вінцуку Адважнаму (а. Я. Гэрмановічу)
на зборніку вершаў Максіма Танка "Пад мачтай"

Міхась Машара, падпісваючы свой зборнік вершаў *На прадвесьні* (Вільня, 1935), абыйшоўся бяз дэдыкацыі, пакідаючы пад партрэтам у кнізе толькі росьпіс. Гэты асобнік, падобна як і некаторыя іншыя беларускія рарытэты Бібліятэкі, паходзіць з кнігазбору спамянутага вышэй Пятра Ластаўкі, і быў перададзеныя ў ББФС пасьля ягонае сьмерці нашчадкамі.

Паэтычны зборнік Натальлі Арсеньневай *Пад сінім небам* (Вільня, 1927) мае дэдыкацыйны надпіс, які быў зроблены ўжо ў значна пазьнейшым часе, на эміграцыі ўв Амэрыцы. Адрасаваны ён а. Яну Хрызастому Тарасэвічу: "Даражэнькаму Айцу Іаану / на памятку аб першым / спатканьні «твар у / твар». / Н. Арсеньнева / 4 га верасьня / 1959 г. Чыкага ". Асобнік-жа амэрыканскага выданьня ейных твораў *Між берагамі* (Нью-Ёрк — Таронта, 1979) нясе прысьвячэньне: "Беларускай Бібліятэцы / ймя Францішка Скарыны. /Аўтар Натальля Арсеньнева. 20.5.79". Прысутнічаюць у фондах ББФС і дарчыя аўтографы, быць можа, крыху менш вядомых беларускіх пісьменьнікаў на чужыне — Алеся Змагара, Крушыны і некаторых іншых.

Зь імёнамі эміграцыйных дзеячоў вяжуцца яшчэ некалькі дэдыкацыйных надпісаў са збораў Бібліятэкі. Культурніцкі і палітычны дзеяч Янка Сурвіла надпісаў "для Гані" (паводле мяркаваньня сп-ні Лёлі Міхалюк, маецца на ўвазе Ганна Мурашка) яшчэ ў часе побыту пасьля вайны ў лягеры для дэпартаваных Ватэнштэт кнігу вядомага нямецкага беларусыста барона Энгельгардта *Weißruthenien: Volk und Land* (Бэрлін, 1943): "На ўспамін зь мінулых / дзён з эміграцыі / для Гані. / Ватэнштадт 14.5.46. /ЯСурвіла."

Актыўнаму беларускаму дзеячу на чужыне Віктару Астроўскаму, сыну Прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага, пасьвячана кніжка польскага палітэміграната С. Вайстомскага *Russia and the Principle of Self-Determination. 1917-1918.* (Лёндан, 1955): "Autorowi "Russia the Suburb / of Hell — / Na pożytek Narodów uciemiężonych / przez Rosję; / Na pohybel imperjum caratu / białego czy czerwonego — / wszystko jedno. / Autor. / 23/XI 1962". На гэтым выданьні, як і на некаторых іншых кнігах, што паходзяць са збораў Астроўскага, стаяць адбіткі экслібрысу і іменнага штампу ўладальніка: манаграма з лацінскіх літараў **O** і **W** ды штамп з гатычным надпісам: "**Wiktor Ostrowski**".



Natalja Arsienjewa — „Pad sinim niebam“.

Drukarnia „Wydawnictwo Wileńskie“ B. Kleckina, Wilno.



Натальля Арсеньнева

Аўтарская дэдыкацыя айцу Я. Тарасэвічу на зборніку вершаў Натальлі Арсеньневай “Пад сінім небам”

Знакаміты скарыназнаўца і шматгадовы выдаўца *Запісаў* Вітаўт Тумаш (знаны таксама пад псэўданімам Сымон Брага) падпісаў працу свайго жыцьця — найгрунтоўнейшы бібліяграфічны паказальнік *Пяць Стагодзьдзяў Скарыніяны. XVI–XX* (Нью-Ёрк, 1989) айцу Надсану: "Дастойнаму / а. Аляксандру Надсону / Вітаўт Тумаш / 29 сьнежня 1989 г.", які і перадаў яго ў Бібліятэку.

На заканчэньні гэтага разьдзелу зьвернемся да разгляду дэдыкацыяў, зробленых аўтарамі, што жылі і стваралі ў БССР. З міжваеннага часу паходзяць дэдыкацыі маладых тады творцаў Уладзіміра Дубоўкі, Алеся Дудара і Паўлюка Шукайлы. Дубоўка падпісаў сваю віленскую 1923 года кніжку вершаў *Строма* : "Шаноўнаму таварышу / М. І. Пастунальскай / з пачуцьцём пашаны — / 16/12-23. Ў. Дубоўка". У той час творы БССР-аўскіх аўтараў яшчэ маглі без наступстваў выходзіць на Заходняй Беларусі!

Дудар свой "маладнякоўскі" зборнічак *Сонечнымі сьцежкамі* (Менск, 1925) падпісаў літаратару-пачаткоўцу Пятрусю Глебку і зрабіў гэта выразна ў духу свайго часу: "П. Глебку / Гартуйся ў маладнякоўскім калектыве, каб зрабіцца вытрыманым, / моцным будаўніком / беларускай пралетарскай культуры / Ал. Дудар." Дэдыкацыя выдатна адбівае атмасфэру і настроі, што панавалі ў маладнякоўскім асяродку, а таксама цудоўна характарызуе самога Дудара — паэта таленту хутчэй злабадзённага, чым векапомнага. Кніжка патрапіла ў Бібліятэку як дар Юркі Віцьбіча.

Беларускі авангардыст Паўлюк Шукайла свой зборнік паэзіі *Акрываўленая зямля* (Менск, 1930) прысьвяціў нейкаму Зуеву (заўважма, па-расейску): "т. Зуеву / Автору многих авторов / от Автора / 28/XII-1930".

На жаль, у зборах ББФС ёсьць толькі адзіны аўтограф Купалы; ён месьціцца на менскім выданьні 1940 года кніжкі ягоных паэмаў: "Мілай засумаванай / Жэні / с сонечным прыветам / Янка Купала / Масква / 16.I - 41 г."

Наступныя аўтографы з Савецкае Беларусі пачалі зьяўляцца ў Бібліятэцы толькі ад 1970-га году, калі ў Лёндан быў перасланы зборнік паэзіі Ларысы Геніюш (*Невадам з Нёмана*. Мн., 1967.) з аўтарскім пасьвячэньням суайчыньнікам-эмігрантам: "Гарачых слоў маіх няхай ня / спыняць межы, / да братніх сэрцаў хай ляцяць / як гімн,

№ 13 КНІЖНІЦА „МАЛАДНЯК“ № 13

URY STUKALICH

АЛЕСЬ ДУДАР

# СОНЕЧНЫМІ СЬЦЕЖКАМІ

ВЕРШЫ

Выданьне Ц. Маладняка

МЕНСК—1925

Аўтарская дэдыкацыя і пазнакі Юркі Віцьбіча на тытульным лісьце зборніка вершаў Алеся Дудара "Сонечнымі сьцежкамі"

/ пяро маё Суродзічам / належыць, / любоў мая належыць _ Ім! / Аўтарка Зэльва 25/v 70 г."

На фарзацы падрыхтаванага Гістпартам і выдадзенага у 1925 годзе ў Менску Белгосиздатом зборніка *Памятнік борцам, погибшим за освобождение Белоруссии* месьціцца нататка Янкі Скрыгана, падобная шырынёй зьместу і сваёй фактаграфічнай каштоўнасьцю да ўспамінанай на пачатку нашага артыкула зацемкі Антона Адамовіча. Нататка адрасаваная Барысу Сачанку, са збораў якога гэты асобнік трапіў ў ББФС: "Дарагі Барысе! Была гэтая кніга / ў Паўлюка Шукайлы, потым мела другога гас- / падара, потым трапіла да мяне. Яна памага- /ла мне (ня гэтая, а гэтакая, што была маёй) / пісаць "Восем смертнікаў", "У Кірылы на хутары" / Ею плённа карысталася ўсе гады БелСЭ, з яе / зрабіла сабе [*прапушчана:* копію — *Ю.Л.*] фотаспосабам адна вельмі паважная ўстанова. Бо нідзе другой гэтакай кніжкі не знайшлося ... / Перадаю яе табе. Калі яна мне яшчэ спатрэбіцца (як у свой час меркаваў), ты мне яе тады пазычыш. / З любоўю / Ян Скрыган / Верасень 78 г." Гэта вельмі характарыстычны запіс, які яскрава адлюстроўвае нашу найноўшую гісторыю: кніга выдадзеная Гістпартам (!) неўзабаве ператвараецца ва ўзор антысавецкае літаратуры — бо сярод іншага зьмяшчае пэрсаналіі дзеячоў БСГ, Паалей-Цыёну і г.д. Яе паўсюдна вышукваюць і зьнішчаюць. Гэта зьнішчэньне праводзіцца настолькі дбайна і пасьпяхова, што ўжо ў пасьляваенны час кнігі не знайсьці нават у спэцсховах і нават "адна вельмі паважная ўстанова" (Гістпарт? Урадавая б-ка?) мусіць рабіць для сябе фотакопію. Нават у 1970-х гэтая кніга застаецца настолькі "антысавецкай", што Скрыган, падпісваючы яе сваймў сябру не асьмельваецца падаць прозьвішча папярэднага ўладальніка, каб яго не скампрамэтаваць.

Надпіс на кнізе Фёдара Янкоўскага *І за гарою пакланюся* (Менск, 1982) вельмі ляканічны: "З любоўю да / Беларусі- / Бацькаўшчыны / Ф. Янкоўскі". Ставячы яго ў тых небясьпечных часох, аўтар асьцярогся пазначаць Бібліятэку як адрасата дэдыкацыі, але, тым ня менш, выслаў на замову а. Аляксандра Надсана дыялекталягічныя слоўнікі і — сваёй ініцыятывай — названую кніжку.

Прыкладна тым-жа часам датуецца і аўтограф Уладзіміра Караткевіча, што праўда, надпісаны бяз перасьцярогаў, але-ж і

больш традыцыйна сфармуляваны: "Бібліятэцы імя Францішка Скарыны — з павагаю. / Ул. Караткевіч. / 14 студзеня 1983 г." Дэдыкацыя гэтая месьціцца на перасланым аўтарам асабіста і з ўласнае задумы у Лёндан рамане *Нельга забыць* (Менск, 1982).

Вядомы беларускі гісторык і краязнаўца Генадзь Каханоўскі падпісаў для ББФС — праўда, не зусім дакладна — кніжку *Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI-XIX стст.* (Менск, 1984): " Музею / імя Францішка / Скарыны / з прыемнасьцю / ад аўтара / ГКаханоўскі / 21 жніўня / 1989 г."

Урэшце, зборнічак паэзіі Сяргея Новіка-Пяюна *Песні з-за кратаў* (Менск, 1993) быў задэдыкаваны айцу А. Надсану пад час ягонага прыезду на Беларусь: "Глыбокапаважанаму А. Аляксандру Надсону / на шчыры ўспамін з глыбокае пашанай, і ўдзячнасьцю / Сяргей Новік-Пяюн. — / Менск 13.IX.1993 г."

## 3. Экслібрысы і ўласьніцкія надпісы

Уласьніцкія пазнакі з калекцыі Скарынаўскай Бібліятэцы, як належыць зазначыць, не сягаюць вельмі далёка ў мінулае. Найранейшы зь беларускіх уласьніцкіх надпісаў на кнігах ББФС паходзіць зь сярэдзіны XУIII ст. Знаходзіцца ён на *Служебніку,* выдадзеным мітрапалітам Кіпрыянам Жахоўскім і размешчаны на сс. 2 - 14 (є҃ - д҃і), у ніжнім полі. Надпіс гэты паведамляе, што : "**Сєй // Слꙋ҆жєбник // Є҆ст // Зякрыстыи // Цєркєі // Бытєнской // чынꙋ // Сєꙗтяго // Вясілія // Вєликяго // 1765** // Anno // **Подпїсян**"[18].

*Служебнік* (*Литургикон*) Жахоўскага друкаваўся напрацягу чатырох гадоў: пачаты ён быў у 1692 г. у Вільні, а скончаны у 1695 г. у Супрасьлі. Аднак тая акалічнасьць, што ўсё выданьне выдрукавана тымі самымі шрыфтамі дае магчымасьць меркаваць, што гэта зьвязана не з перадачай працы іншай друкарні, а зь перанясеньнем віленскай базыльянскай друкарні у Супрасьль. Гэтае меркаваньне пацьвярджаецца і тым, што наступнае віленскае базыльянскае выданьне — *Служебник* мітрапаліта Феліцыяна Філіпа. Валадковіча 1773 г., пра які будзе мова ніжэй — ўбачыць сьвет толькі праз 80 гадоў.

*Литургикон* Жахоўскага — гэта першы, як здаецца, з усходніх служэбнікаў, які пабудаваны на мадэль лацінскага *Missale* (то бо, зьмяшчаючы ўвесь тэкст сьв. Літургіі, уключна з чытаньнямі з *Эвангельля* і *Апостала*) і, такім чынам адбівае пачаткі лацінізацыі Ўсходнае Царквы на Беларусі. Наш асобнік зьвяртае на сябе ўвагу тым, што некаторыя часткі ў ім вынятыя, а на іхнае месца ўплеценыя старонкі з успамянутага *Служебника* Валадковіча, якія зьмяшчяюць *Службу Яна Златавуснага* і *Літаніі.* (Апроч таго, сярод

---

[18]Тут падаем надпіс з 'разгорнутымі' лігатурамі, захоўваючы, аднак, артаграфію арыгінала, як, напр., "**Сєꙗтяго**" зь "беларускім" вялікім юсам замест малога, патрэбнага паводле правілаў стара-царкоўна-славянскай мовы.

тэксту у адпаведным месьце, уплецена і проста перапісаная ад рукі зь невядомае крыніцы *Служба Страстемъ Христовымъ*). Трэба зазначыць, што такім чынам быў устаўлены ўвесь склад Валадковічавага выданьня за выключэньнем толькі тытульнага ліста. Цікава, што гэта не адзіны выпадак. Напрыклад, айцец Аляксандар Надсан паведаміў нам пра наяўнасьць яшчэ аднаго "удасканаленага" падобным-жа чынам асобніка, які знаходзіцца ў прыватным зборы прафэсара Аляксандра Баршчэўскага ў Варшаве. Апроч таго, ў Нацыянальным музэі Беларусі захоўваюцца 2 асобнікі гэтага выданьня.[19] Ув адным зь іх (інв. № 2651) зроблена падобная-ж замена. У другім (інв. № 496) заменяная частка проста страчана. Такая пашыранасьць замены тэкстаў павінна сьведчыць аб цэнтралізаванай акцыі. Гіпотэза аб сувязі ўставак з уплывам рашэньняў Замойскага сыноду 1720 г. пакуль не знайшла свайго пацьверджаньня.

Наступны храналягічна запіс, таксама на выданьні супрасьльскага друку, паходзіць зь пераломy XУIII-XIX стст. і належыць архімандрыту Тодару Віслоцкаму, першаму супрасльскаму вуніяцкаму біскупу: "Theodorii Wisłocki / Ep[isco]pi Suprasliensis" (з дапісанымі пазьней іншай рукой над і пад запісам словамі: "Szanowny" і "Supraski"), — і знаходзіцца на кнізе *Собраніе припадковъ краткое* (Супрасьль, 1722). Калі Супрасьль у выніку трэйцяга разьдзелу Рэчы Паспалітае трапіў на некаторы час пад прускае панаваньне, Папам Піям УІ было прынятае рашэньне аб утварэньні на гэтых землях адмысловай эпархіі для грэка-каталікоў. Залежная непасрэдна ад Рыму эпархія была створана ў 1798 г., але нейкі час ейная катэдра заставалася вакантнай і адміністраваньне ажыцьцяўлялася лацінскім біскупам з Плоцку. Толькі праз год на гэтую пасаду быў прызначаны архімандрыт супрасьльскі Тодар, якому Папа з гэтае нагоды, не ашчаджаючы хваленьняў, пісаў квяцістым стылем ватыканскіх бульляў: "[...] клопат пільны аб гэтай Супрасьльскай Царкве маючы, менавіта да цябе, Празьбітара Кіеўскага, то бо іншага стальца альбо Эпархіі; [каторы] з каталіцкіх, шанаваных і праўным сужэнствам злучаных

---

[19] Паводле каталёгу: *Старопечатные беларуские книги кирилловской печати в музеях Белоруссии: Каталог*/Сост. Л. Клок. Мн., 1985. С. 28. Пад час нашага візыту ў Менск гэтыя кнігі, на жаль, былі недаступныя для візуальнага азнаямленьня з повaду знаходжаньня на дэзынфэкцыі.

бацькоў народжаны; [каторы,] маючы шэсьцьдзесят год, цягам доўгага часу ў сьвятой ласцы пастырства перабывае і [каторы], таксама, Манахам Чыну сьв. Базыля Вялікага быў менаваны дзеля ў тым-жа абрадзе служэньня; каторы Багаслоўя вывучэньнем старанным [свой] час напоўніў; і ў некаторых званага Чыну манастырох шматлікія абавязкі з руплівасьцю, разважлівасьцю ды вучонасьцю выконваў, а таксама ўв апошнім манастыры, Супрасьльскім, менаваны на таго-ж Чыну ды Абраду Архімандрыта пасаду, [на якой] дасканала і плённа дзейнічаў; а таксама [каторы знаны] з чысьціні свайго жыцьця, шляхетнасьці паводзінаў і г.д., скіравалі мы вочы нашага розуму; [...] пра асобу тваю [...] мы ад пачатку падумалі, і цябе гэтае Царквы Сьв. біскупам прызначаем ды душ апеку і г.д. перадаем"[20]. Урачыстае высьвячэньне а. Тодара на біскупа адбылося 15 красавіка 1800 года. Што праўда, ягонае біскупаваньне не зацягнулася: ён памёр амаль роўна праз год, 28 красавіка 1801 г. Гэтая акалічнасьць дазваляе больш-менш дакладна датаваць надпіс, які, такім чынам, можа паходзіць толькі з пэрыяду ад 15.04.1800 да 28.04.1801.

На гэтым мейсцы, бадай, выпадае сказаць пару словаў і пра супэрэкслібрысы — мы іх маем два. Адзін — гэта некалі залочаны герб 'Шрэнява' і паабапал літары у два слупкі: A-D-G ды P-P-O; ён знаходзіцца на 1-м томе Historiae Litvanae Альбэрта Віюка-Каяловіча (Гданьск, 1650). Другі — у актагоне родавы герб графаў Гутэн-Чапскіх ды ініцыялы "E" і "C" унізе паабапал шчыта на кнізе Аляксандра Гваньіні *Sarmatiae Europeae Discriptio*, выдадзенай у 1581 г. у Сьпіры (Spira, суч. Speier у Нямеччыне). Абодва суперэкслібрысы

---

[20]Цыт. паводле: Documenta Pontificum Romanorum Historiam Ucrainae Illustrantia (1075-1953). Vol. II (1700-1953). Romae, 1954. P.306. Параўн.: "[...] Nos ad provisionem eiusdem Ecclesiae Suprasliensis celerem etc. habitam, demum ad te, Praesbiterum Kioviensem, seu alius civitatis vel Diocesis, ex catholicis, honestis legitimoque matrimonio iunctus parentibus procreatum, sexagenario maiorem, et a pluribus annis in sacro presbyteratus ordine constitum, nec non Monachum Ordinis S. Basilii Magni nuncupati eiusdem Ritus expresse professum, qui Theologiae studiis sedulam navasti operam, et in aliquibus praedicti Ordinis monasteriis plura officia cum sedulate, prudentia, atque doctrina explevisti, nec non postremo monasterii Suprasliensis nuncupati eorundem Ordinis ac Ritus Abbatis munere perfecte ac proficue functus fuisti, ac de cuius vitae munditia, morum honestate etc. direximus oculos nostrae mentis, quibus omnibus debita meditatione pensatis, te a quibusvis etc. censentes, eidem Ecclesiae Suprasliensi ... de persona tua ... providemus, teque eidem Ecclesiae S. In Episcopum praeficimus et pastorem curam etc. incrementa." Гэты дакумэнт таксама быў апублікаваны пад № 169 ў XVI томе АВАК.



Кс. Вінцэнт Гадлеўскі,
1920-я гады.

Уласьніцкі надпіс Аляксея Сапунова на паасобніку Статута Вялікага Княства Літоўскага.

выцісьненыя на пэргамінавых аправах. Першая аправа вельмі старая і можа паходзіць нават з XУII ст. Другая — ўжо больш новая, зь XIX-га стагодзьдзя. Гербам 'Шрэнява' на Беларусі карысталіся некалькі родаў: Амфоравічы, Бракіцкія, Рагозы, Скіндэры і некаторыя інш. — аднак, бяз спэцыяльных архіўных вышукваньняў зыдэнтыфікаваць асобу, якой належаў супэрэкслібрыс, не ўяўляецца магчымым (тым болей, што невядома, ці сапраўды колішні ўладальнік паходзіў менавіта зь Беларусі). Што да кнігі Гваньіні, дык тут справа значна прасьцейшая: выданьне было перадана ў Бібліятэку адным з графаў Гутэн-Чапскіх ў 1975 г., а ініцыялы пры гербе, як і фамільная традыцыя, дазваляюць адназначна прыпісаць супэрэкслібрыс Эмэрыку Гутэн-Чапскаму, славутаму зьбіральніку старажытнасьцяў, уладальніку знакамітага музэю ды бібліятэкі, што знаходзіліся ў ягоным маёнтку Станькава.

Аляксандру Ельскаму належаў *Przewodnik po Litwie i Białejrusi* Н. Роўбы, пра які мы ўжо казалі ў сувязі з паметамі. Выданьне нясе штамп Аляксандра Ельскага на тытульным лісьце — лінейны, сінім атрамантам (складаная для расчытаньня з прычыны кепскай якасьці адбітка: ALEKSANDER JELSKI / Dominium ZAMOŚĆ. / Obw.[?] Mińska. / Poczta i telegraf: Uźlany.), а таксама два росьпісы ягонага сына, Яна Ельскага, на шмуцтытуле ды тытульным лісьце.

Яшчэ аднаму беларускаму гісторыку і краязнаўцу, выдаўцу *Полоцкой Старины*, Аляксею Сапунову належаў *Статут Вялікага Княства Літоўскага* (3-е выд., Вільня, к. 1594-1595), аб чым сьведчаць цісьнёны штамп "А. П. Сапуновъ" і подпіс "А. Сапуновъ", якія сустракаюцца некалькі разоў у розных месцах кнігі.

З кнігагандлёвых беларускіх пазнакаў ББФС мае ў сваіх зборах вельмі цікавы экзэмпляр — адбітак штампу Станіслава Станкевіча, "Кнігара": "БЕЛАРУСКАЯ КНІГАРНЯ / С. Станкевіча / Вільня, Вострабрамская 2.", які месьціцца на перавыдадзеных у 1909 годзе ў Пецярбургу суполкай "Загляне сонца і ў наша ваконцэ!" Wiecharnicach Дуніна-Марцінкевіча.

На брашурцы А. Зязюлі (псэўданім а. Аляксандра Астрамовіча) Słowa prawdy (Петраград, 1917) знаходзіцца ўласьніцкі надпіс: "Вк.(?) Воўк-Левановіч", які складана інтэрпрэтаваць адназначна. Нам не ўдалося выявіць пэўнага Воўк-Левановіча, які-б меў імя, скаротнае да 'Вк' або 'Віс'. Існуе вялікая спакуса зарызыкаваць прачытаньне

Tom V.

Biełaruskije pieśniary.

„Zahlanie sonce
i ŭ nasze wakonce!"

# WIECZARNICY.

Wincuka Dunin-Marcinkiewicza.

Wydańnie druhoje.




PIECIARBURH.
Drukarnia K. Piantkoŭskaha. Wialik. Padjaczeskaja wul., № 22.
1909.



Штамп кнігарні Станіслава Станкевіча на тытульным лісьце "Wieczrnicaй" Дуніна Марцінкевіча, выдадзеных суполкай 'Загляне сонца і ў наша ваконца!'

гэтых літараў як скарот ад слова 'Выкладчык', і прыпісаць надпіс славутаму беларускаму мовазнаўцу Язэпу Воўк-Левановічу, які, па заканчэньні ў 1923 годзе Пецярбурскага ун-та, выкладаў у БДУ. Але, бязумоўна, такое меркаваньне нельга лічыць даказаным на падставе адных толькі ўскосных аргумэнтаў. Паходжаньне выданьня ня высьветлена.

Уласьніцкі надпіс "Al[?]Клімовіч / 11.IY.32", які знаходзіцца на сьпеўніку Ул. Тэраўскага *Беларускі лірнік* (Бэрлін, 1922) і належыць, праўдападобна, заходнебеларускаму дзеячу, сябру БХД і чыннаму ўдзельніку культурнага жыцьця ў Вільні, інжэнэру Адольфу Клімовічу, пра якога а. Ян Тарасэвіч у сваёй кнізе *Na Baćkaŭščynu* піша: "Ćaławiek heta nadta wyrablenaha dobraha charakteru, silnaj woli, wialiki patryjot i dziajač, sapraŭdny chryścijanin-katalik."[21].

Экслібрыс Рамуальда Зямкевіча — мастацкі, наклейванага тыпу. Ён нясе выяву разьблёнае ножкі пісьмовага стала і вэртыкальны надпіс: "Ex / libris / ROMUALDA / Z / I / E / M / K / E / W / I / CZA+". Пасьля прозьвішча замест кропкі стаіць свастыка, падобна як і на мікраскапічнай абрэвіятуры імя аўтара-мастака (паміж літарамі M і W) унізе малюнка. Гэты экслібрыс знаходзіцца на асобна пераплеценай адбітцы артыкулу д-ра Ул. Рагоўскага *Białoruś w pieśni* (з: Echo Literacko-Artystyczne. Warszawa, 1914). Кніжка паходзіць са збораў Пятра Ластаўкі.

Да слова, сам Ластаўка найчасьцей пазначаў свае кнігі, ставячы сінім атрамантам парадкавы нумар (напр., "Nr катал. 80") і расьпісваючыся, як ён гэта зрабіў, між іншым, на памянёным зборнічку Танка *Журавінавы цьвет.* Аднак, на ягоных набытках з пазьнейшага часу можна таксама сустрэць фіялетавы або чырвоны адбітак штампу: "PIOTR ŁASTOWKA / BIBLIOTEKA DOMOWA", —нярэдка з дапісаным ад рукі нумарам, а таксама надпіс чорным атрамантам: "Пётр Ластаўка". Абедзьве гэтыя пазнакі, у прыватнасьці, прысутнічаюць на кніжцы Максіма Гарэцкага *Атрута.* (Вільня, 1927).

Два экслібрысы заходнебеларускага паэты і дзеяча Сяргея Новіка-Пяюна знаходзяцца на тытулёвым лісьце 7-м вып. *Бѣлорусского Сборника* Е. Р. Раманава (Вільня - Санктъ-Пецярбург, 1910). Абодва адбітыя фіялетавым атрамантам; адзін, ранейшы і больш сьветлага адценьня, мае круглую форму і надпіс усярэдзіне: "С. М. / Новік", — пад прозьвішчам ад рукі дапісана "№ 71." Другі адбітак мае

[21]Tarasewič J. Na Baćkaŭščynu. Wilnia, 1936. S.23.










Экслібрыс Рамуальда Зямкевіча

Экслібрыс Браніслава Эпімах-Шыпілы

Біскупская пячатка Часлава Сіповіча

Уласьніцкі надпіс кс. Пётры Татарыновіча

авальную зубчаватую форму; ўсярэдзіне па абводзе: "Сяргей Міхайлавіч / г. Мінск", у цэнтры-ж: "Новік-Пяюн". Апроч таго, першы экслібрыс, але бяз нумару, сустракаецца на шэрагу старонак у сярэдзіне кнігі. Гэтае выданьне трапіла да нас дзякуючы дабразычлівасьці вялікага сябра Бібліятэкі Барыса Сачанкі.

Адбітак экслібрыса праф. Браніслава Эпімаха-Шыпілы (у цэнтры герб, па абводзе — надпіс: "* Ex libris * Bronislai Epimachi-Schipillo") месьціцца на паэтычным зборнічку Міхайлы Грамыкі *Плынь* (Менск, 1927); а выдадзены яшчэ да рэвалюцыі вялізны том *Бѣловѣжская пуща* (Санкт-Пецярбург, 1903) некалі належаў амаль забытаму сёньня беларускаму пісьменьніку і перакладчыку міжваеннага пэрыяду Міколу Нікановічу, пра што сьведчыць надпіс фіялетавым атрамантам: "Мікола Нікано[віч] / 1923 год / Менск". Пазьней да яго была зроблена дапіска той-жа рукой, але драбнейшым пісьмом і крыху сьвятлейшым атрамантам: "(памылка — не 23 год, а [...] / МНікановіч)". Надпіс быў пашкоджаны пад час пераплётніцкае абрэзкі.

Ўласьніцкія надпісы Янкі Скрыгана (з выкарыстаньнем псэўданіму:"Я[.]Відук"), апрача ўспамінанага вышэй зборніка *Памятнік борцам, погибшим за освобождение Белоруссии,* прысутнічаюць на шэрагу маладнякоўскіх выданьняў, а ў прыватнасьці — на кніжцы Алеся Дудара *Шанхайскі шоўк* (Менск, 1926). Паза тым, на гэтай кнізе знаходзіцца ягоны экслібрыс: (тыповы авальны адбітак са значком:"№..." — у цэнтры і надпісам: "З Бібліотекі Ян. Скрыгана" — па абводзе), а таксама экслібрыс яшчэ аднаго беларускага пісьменьніка — Юркі Віцьбіча (штамп: JURY STUKALICH). Гэты-ж апошні эксьлібрыс, разам з алоўкавым надпісам: "Юрка Віцьбіч", таксама месьціцца і на зборніку вершаў Дудара *Сонечнымі сьцежкамі* (Менск, 1925), які быў падпісаны аўтарам Пятрусю Глебку. Абедзьве кніжкі былі перададзеныя ў Бібліятэку самім Віцьбічам.

Колькі кніжак з калекцыі Бібліятэкі нясуць вельмі сьціплы экслібрыс іншага вядомага эміграцыйнага літаратара і навукоўца, Аўгена Калубовіча (лінейны штамп: "БІБЛІЯТЭКА / А. КАХАНОЎСКАГА") — як, напрыклад, выдадзены ў Бэрліне бяз даты, у сэрыі *Беларуская народная бібліятэчка Vineta,* зборнічак апавяданьняў розных аўтараў *Дудар.*

Паколькі ув аснову ББФС былі пакладзеныя прыватныя зборы сьвятароў Беларускае Грэка-Каталіцкае Місіі ў Лёндане (біскупа Чэслава Сіповіча, айцоў Ільва Гарошкі і Аляксандра Надсана), шмат якія кнігі нясуць іхныя пячаткі і ўласьніцкія надпісы. Перш за ўсё тут трэба згадаць выданьні з пазнакамі біскупа Сіповіча, кніжная калекцыя якога стварыла ядро Бібліятэкі. Біскуп Сіповіч адмысловага экслібрысу ніколі ня меў і свае кнігі пазначаў або адручна, або ставячы пячатку. Уласьніцкія надпісы ягоныя пераважна сустракаюцца двох тыпаў. Ранейшы (прозьвішча і адрас) — сінім атрамантам: "a. Č. Sipovič. / (London E. 2, 21 The Oval, / Hackney Rd.)" — паходзіць з 1947 г., калі сьвятар яшчэ толькі прыехаў у Лёндан і жыў каля году ў летувіскім доме айцоў марыянаў на Овал Гакні. Так падпісаны, між іншым, укладзены Альбінам Стэповічам сьпеўнік *Za Baćkaŭščynu* (Вільня, 1935). Надпіс іншага тыпу (прозьвішча і сан): "+ C.Sipovič, / Ep[isco]pus", зроблены алоўкам, месьціцца на фарзацы *Новага Запавету* (Лёндан, 1948). Падобны, але па-беларуску і трохі пашыраны, надпіс знаходзіцца, напр., на першым томе *Sacrum Poloniae Millennium* (Рым, 1954): "+ Česłaŭ Sipovič / B[isku]p tyt[ularny] Maryamitanski"; зроблены ён сінім атрамантам.

Таксама ня былі нязьменныя і выявы пячатак біскупа. Пакуль ён быў простым сьвятаром, карыстаўся штампам зь лінейным надпісам: "Rev[erend]. C. Sipovich, / Marian House, / Holden Avenue, / London, N.12." (параўнай, напрыклад, адбітак на выданьні апублікаваных архіэпіскапам Афанасіям Мартасам ў 1948г. ў Нямеччыне *Матэр'ялаў да Гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы.* або на працы А. Цьвікевіча *Адраджэньне Беларусі і Польшча,* Менск-Вільня-Бэрлін, 1921). Аднак атрымаўшы біскупскія сьвячаньні а. Сіповіч вырабіў адпаведную сану пячатку: родавы герб 'Ліс' пад мітрай — у цэнтры, і надпіс: "* CESLAUS EPISCOPUS TITULARIS MARIAMMITANUS" — па абводзе. Гэтая пазнака прысутнічае, у прыватнасьці, на выдадзеным ув Оксфардзе бяз даты выхаду *A Latin Dictionary*. Большасьць усіх адбіткаў стаўленая фіялетавым колерам — як, напрыклад, на кнізе І. М. Швейгля *Учебные схемы церковных служб* (2-е выд., Рым, 1954) або на на 1-м томе *Dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów* Л. Калянкоўскага (Варшава, 1930).

Унікальным зьяўляецца надпіс, выцісьнены на раскошнай скуранай апраўе Вульгаты (*Biblia Sacra*... Torino, 1938): "P[adre].C[eslaus].SIPOVIC / ROMA 19-12-1946". Супадзеньне даты з

адзначанай на тытульным лісьце ў дэдыкацыі ("Al neo dottore Padre C. Sipovic / Piero e Famiglia Goretta / con afetto / Roma 19-12-1946.") дазваляе сьцвярджаць, што надпіс быў выкананы адмыслова для гэтае нагоды дарыцелем — сябрам будучага біскупа і прафэсійным інтралігатарам — П. Гарэтам, а нагодай паслужыла абарона айцом Ч. Сіповічам дактарату.

Заканчваючы гаворку пра экслібрысы біскупа Ч. Сіповіча, хочацца адыйсьці крыху ад тэмы нашага нарысу і згадаць яшчэ пра адзін кніжны знак, зьвязаны зь ягоным імям. У 1960-х гг. пры Беларускай Грэка-Каталіцкай Місіі ў Лёндане дзейнічала школа сьв. Кірылы Тураўскага, створаная з думкаю пра дзетак беларускіх эмігрантаў у Вялікабрытаніі. Дзеля заахвочваньня ў навуцы, лепшым ейным вучням дарыліся ва ўзнагароду кніжкі, на якія наклейваўся адмыслова выраблены экслібрыс-дэдыкацыя на лаціне: "HUNC IIBRUM . / E . MUNIFICENTA . BENEFACT . / ORUM . / / ORERÆ . IN . STUDIIS . / FELICITER . NAVATÆ . / PRÆMIUM . DEDIT . EXCELLENTISSIMUS . / CESLAUS . SIPOVICIUS / EPISCOPUS . . MARIAMMITANUS . COLLEGII . ALBARUTHENICI . SANCTI . CYRILLI . TUROVIENSIS . PATRONUS . MCMLX".

Уласьніцкія надпісы а. Льва Гарошкі вельмі лякалічныя: "а. Леў Горошко"( як на кнізе: Leib B. *Rome, Kiev et Byzance*... Paris, 1924), або, увогуле, проста кепска чытальны подпіс: "LHoroško", як, напр., на гэльсінгфорскім *Новым Запавеце*.

Сярод іншых сьвятароў, якія былі ў той ці іншы спосаб зьвязаныя з Місіяй і чые кнігі у якасьці дарунка або пасьля сьмерці ўладальніка трапілі ў фонды ББФС, варта назваць айцоў Пятра Татарыновіча, Робэрта Тамушанскага, Язэпа Рэшаця, а таксама Яна Хрызастома і Уладзіміра Тарасэвічаў.

У бібліятэцы перахоўваецца даволі шмат кніг са збораў а. Татарыновіча, якія пасьля сьмерці апошняга былі перавезеныя з Рыму ў Лёндан біскупам Сіповічам. Адзін з найранейшых ягоных уласьніцкіх надпісаў: "Sobskaść Ks. PTatarynoviča" — чырвонай асадкай — знаходзіцца на фарзацы асобніка перакладзенай Станіславам Грынкевічам кніжкі Тамаша Кэмпійскага *Śledam za Chrystusam* (Львоў-Вільня, 1934). На гэтым-жа асобніку знаходзіцца ўклееены партрэт перакладчыка з алоўкавым надпісам рукой Татарыновіча: "Dr. St. Hrynkevič / starejšy / Pierakładčyk". Пазьней а. Татарыновіч надпісываў свае кнігі яшчэ больш каратка:



Беларускія сьвятары на эміграцыі. Сядзяць (зьлева направа): Леў Гарошка, Пётра Татарыновіч, Францішак Чарняўскі, Часлаў Сіповіч, Уладзімір Тарасэвіч. Стаяць: Аляксандар Надсан, Кастусь Маскалік, Янка Садоўскі. 1950-я гады.

"Mons[ignor].PTatarynovič", як, напр., надпісаў *Хрысьціянства і Беларускі народ* А. Станкевіча (Вільня, 1940).

А. Робэрт Тамушанскі зазначаў сваю ўласнасьць надпісам: "ex libris dr. R. Tamušanski" або "R. Tamushanski" і штампам (надпіс у лінейку): "R. J. Tamushanski / Marian House / Holden Avenue / London, N. 12, England" – усё ў чорным колеры, як, напр., на кнізе І. Хамы "Нарис історії храму Жировицької Богоматері..." (Рым, 1972) і на гердэраўскім выданьні: Denzinger H., Schonmetzer A. *Enchiridion symbolorum*... Barsinone etc., MCMLXV.

А. Язэп Рэшаць сваіх кнігаў, здаецца, спэцыяльна не пазначаў; прынамсі, ягоных пазнакаў нам выявіць не ўдалося, хоць напэўна вядома, што ў Бібліятэцы перахоўваецца, прынамсі, некалькі кніжак зь ягонае калекцыі. Пасьля сьмерці біскупа Уладзіміра Тарасэвіча ў Чыкага ББФС пераняла беларускія выданьні з ягонае бібліятэкі, якая складася, галоўным чынам, з кніг са збораў памёрлых ужо раней айцоў Язэпа Рэшаця і Яна Хрызастома Тарасэвіча. Таму ў нашых фондах перахоўваецца багата выданьняў з характэрнымі ўласьніцкімі надпісамі апошняга. Сярод іх найчасьцей сустракаюцца фармулёўкі: "F[athe]r. Chrysostom / Tarasevitch" (напр., на кнізе называнага а. Рэшаця *Światyja* (Львоў-Вільня, 1937) і "F[athe]r. Chrysostom OSB" – на *Гісторыі беларускай літэратуры* Гарэцкага (Вільня, 1920).

А. Уладзімір Тарасэвіч пазначаў сваю ўласнасьць адручна, надпісваючы: "A. Uł. Tarasevič / 3107 W. Fullerton / Chicago, Ill." як на кнізе свайго дзядзькі а. Яна Тарасэвіча *Na Baćkaŭščynu.* Калі-ж атрымаў годнасьць біскупа – ставячы лінейную пячатку: "VLADIMIR TARASEVITCH / ST. PROKOPIUS ABBEY / LISLE, ILLINOIS U.S.A.", як, напр., на кнізе Ф. Аляхновіча *У капцюрох Г.П.У.* (Вильна, 1937) або на ўжо згаданым вышэй дасьледваньні Антановіча і Ілавайскага *Исторія Великого Княжества Литовского*.

Апроч таго, некалькі ўласьніцкіх пазнакаў з калекцыі ББФС нясуць прозьвішчы знакамітых беларускіх хрысьціянскіх дзеячоў міжваеннага пэрыяду. Найранейшая зь іх знаходзіцца на ўжо згаданым вышэй кодэксе кананічнага права, што належаў айцу Вінцэнту Гадлеўскаму: "Ks. W[.] Godlewski / Mińsk. 3.IX.1918r." Аўтограф а. Францішка Чарняўскага (роднага дзядзькі вішнеўскага пробашча і перакладчыка Сьв. Пісьма а. Уладзіслава): "Ks FČerniaŭski" – месьціцца на *Невялічкім беларуска-маскоўскім*



Партрэт доктара Станіслава Грынкевіча, наклеены на асобнік перакладзенай ім кнігі "Сьледам за Хрыстусам", з надпісам рукой кс. Пятра Татарыновіча



Айцец Робэрт Тамушанскі

*слоўнічку* Максіма Гарэцкага (Вільня, 1919). Уласьніцкія надпісы бацькі сьвятароў Тамаша і Антона Падзяваў Габрыэля можна знайсьці на *Historyi Świętoj* Гадлеўскага (Вільня, 1930): "Wаładar Gabriel Podziawa" і "Gabriel Podziawa", а экслібрыс Адама Станкевіча (авальны адбітак: у цэнтры — "Кнігазбор", а ўздоўж абводу — "+ Кс[.] Адама / + Станкевіча") на шэрагу кніг, як, напр., на *Хрэстаматыі новай беларускай літэратуры* Ігната Дварчаніна (Вільня, 1927) або, зноўжа, на перашоўшым, відаць, да яго ад кс. Гадлеўскага, лацінскамоўным *Кодэксе кананічнага права*.

Вельмі цікавымі ўяўляюцца кнігі з пазнакамі сьвецкіх дзеячоў. Так, багата ў Бібліятэцы выданьняў з разнастайнымі экслібрысамі, пячаткамі і надпісамі Кастуся Езавітава[22]. У прыватнасьці, гэта нумар часопіса *Варта*, на якім месьціцца некалькі пячатак — як ягоных асабістых, так і належных да арганізацыяў зь якімі ён быў зьвязаны. Дзьве з тых пячатак, адбітыя чырвоным (адна з надпісам: "КЕзовитов", другая — з сымболікай БНР), прысутнічаюць і на II-м томе працы Яўхіма Карскага *Беларусы* (Варшава, 1911). Успамінаная вышэй кніга Язэпа Найдзюка *Беларусь учора і сяньня* (Менск, 1944) пазначана маленькім роспісам уладальніка (выцьвілым чорным атрамантам) на вокладцы і чырвоным лінейным штампам: "Konstantyn Jezavitau / Ostland, Riga. / Inčukalna isla Nr.1, dz.1" як на вокладцы, так і на тытульным аркушы. Лінейны штамп фіялетавым: "KOSTANTIN JEZOVITOV / LATVIJA, LATHALE, LUDZE" месьціцца на кніжцы *Працэс 45-ці беларусаў у Беластоку*. Вільня, 1923. Апрача гэтае пячаткі выданьне нясе яшчэ адручны надпіс: "Jazepa Kananoviča ułasnaść/ / Prośba Hetu Knihu nie zatracić". Відаць, кніга ўсё-ж была "затрачана", бо, ў рэшце рэшт, трапіла да чыкагскага беларуса Міколы Жызьнеўскага (дарэчы, ягоная пячатка таксама прысутнічае на тытульным аркушы), які і перадаў яе ў лёнданскую Бібліятэку.

---

[22] Спадзяюся, гэтая інфармацыя будзе асабліва карысная для бібліёлягаў, якія займуцца рэканструкцыяй кнігазбору Кастуся Езавітава і складаньнем зводнага каталёгу кніг, некалі яму належных, на патрэбу чаго зьвяртаў увагу сп. Валер Герасімаў (Гл.: Герасімаў В., Бібліятэка К. Езавітава (Праблема рэканструкцыі) // Недзяржаўная выдавецкая дзейнасьць у Беларусі: Гісторыя і сучаснасьць. Матэрыялы Міжнар. навук.-практ. канф. (Мінск, 3-4 кастр. 1996 г.). Мн.:Тэхналёгія, 1997. С. 27-28.

**МАКСІМ ГАРЭЦКІ.**

# НЕВЯЛІЧКІ БЕЛАРУСКА-МАСКОЎСКІ СЛОЎНІК

**Рэдакцыя Янкі Станкеўчыка.**



**Вільня, 1919 г.**

Друкарня «Віленскага Выдавецтва».

Уласьніцкі надпіс кс. Францішка Чарняўскага на "Невялічкім беларуска-маскоўскім слоўніку" Максіма Гарэцкага

Ks. W. Godlewski

Mińsk. 3.IX.1918 r.

Уласьніцкі надпіс кс. Вінцэнта Гадлеўскага

На кнізе аўтарства самаго Езавітава, *Беларусы ў Літве* (Рыга, 1923) месьціцца слаба расчытывальны алоўкавы запіс Міколы Дзямідава часоў ягонае латыскае эміграцыі: "Rige Merkielia (?) / 5. dz. 1b • 21 702 / Tel / N. Demidovs.". *Успаміны аб польскай акупацыі Горадзеншчыны у 1919-1921* І. Г. Антонава (Б.м.в., 1921) нясуць у некалькіх месцах адбіткі пячаткі: "NIKOLAS DEMIDOV / 2118 W. EVERGREEN AVE. / CHICAGO, ILLINOIS 60622 / Tel. br. 8-5143", а таксама на фарзацы надпіс фіялетавым атрамантам: "Мікола Дзямідаў / 1922. Рыга, / 22.XI.", дзе пад імем і прозьвішчам дапісана сіняй асадкай іншай рукою: "Камэндант места и крэпасьці Гродно". На наступным пасьля "Аглаўленьня" аркушы зноў месьцяцца два адбіткі пячаткі і нататка рукою Дзямідава: "Мікола Дзямідаў. Матэрыя- / лы для без'адкладнага на- / друкаваньня у Беларус. прэсе: / 1) Злажыў Іван Гры- / гор'явіч Антонаў. 1921г. / ["]Успаміны аб польскай / акупацыі Горадзеншчы- / ны ў 1919-1921г.г. / Малюнкі гвалту і зьдзе- / ку фацетных польскіх / паноў на Беларусі. / Мае перажываньні. / ["] / (-1-83 балонкі). /Атрымаў ад Ўсевал. Мікал. Боява: 1960 г." (Адбітак пячаткі Боява, колішняга сувязьніка Ураду БНР за часоў антыпольскае партызанкі, прысутнічае на тытульным аркушы: "Vsevolodas Bojovas / ADVOCATAS / Kaunas, Putvinskio g-ve 21 / Tel. 11-80". Дзівіць разьбежка паміж датамі ў надпісах: 1922 і 1960; вытлумачыць яе пераканаўча не ўдаецца.

На брашурцы а. Я. Тарасэвіча *Bielarusy ŭ światle praŭdy* (Вільня, 1935) відзён уласьніцкі надпіс першага прэм'ер-міністра Ураду БНР Язэпа Варонкі, што праўда, ўжо з часоў ягонае амэрыканскае эміграцыі: "Mr. J. J. Voronko / 2009 Cortez Str. / (Corner Damen Ave) / Chicago, Ill.".

Лінейны штамп з прозьвішчам асобы, інфармацыя пра змагарную дзейнасьць якой ў БССР толькі нядаўна стала шырокавядомай: "FILISTOWICZ JAN" — знаходзіцца на Кн. 1. за 1936 г. часопіса *Маладая Беларусь*. Некалькі алоўкавых паметаў на старонках часопіса, быць можа, таксама належаць Янку Філістовічу.

У ББФС перахоўваюцца колькі кніжак з пазнакамі Янкі Сурвілы: адручным роспісам сінім атрамантам і пячаткаю арганізаванага ім беларускага выдавецтва: вялікая літара "Я" ў цэнтры і надпіс уздоўж абводу: "БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА • BIELARUSSIAN PUBLISHER •", як, напраклад, на выданьні зборніка лекцыяў і артыкулаў Антона Луцкевіча *Адбітае жыцьцё* (Вільня, 1929).

На шэрагу кніжак таксама прысутнічаюць пазнакі Вацлава Панунцэвіча (Папуцэвіча). Напрыклад, адручны надпіс сіняй асадкай "ВПапуцэвіч" і гэтак-жа ў сінім колеры штамп: "V. PANUCEVIČ / 2042 W. ST. PAUL AVE. / CHICAGO-47-ILL. USA" — знаходзіцца, між іншым, на выдадзенай ў 1951 г. у Пазнані кнізе К. Тымянецкага *Ziemie polskie w starożytności*.

Сярод іншых дзеячоў беларускае эміграцыі, — быць можа, менш вядомых, — чые пазнакі на кнігах знаходзяцца ў калекцыі Бібліятэкі, назавем некалькіх. На кнізе Езавітава *Беларуская Цэнтральная Рада адзіны правамоцны прадстаўнік беларускага народу* (Менск, 1944) месьціцца мастацкі экслібрыс беларускага літаратара і выдаўца Сяргея Хмары (С. Сіняка). Экслібрыс адбіты фіялетавым і зьмяшчае эстэтычна скампанаваныя выявы каласоў, беларускага арнамэнту, падвойнае "Пагоні", ліры, вагню ды мяча, а таксама надпіс: "Ex libris / С. Хмары".

Некалькі кніг нясуць пазнакі Леаніда Галяка, у прыватнасьці — экслібрыс, адбіты брунатаватым атрамэнтам: "SA ZBORU LEANIDA HALAKA" на выдадзенай у 1980 г. у Лязаньне кнізе Сымона Шышмана: *Le Karaimisme: Ses doctrines et son histoire* і на шэрагу кніжак з выдадзеных у 1944 годзе ў Бэрліне ў сэрыі *Народная бібліятэчка* і *Бібліятэчка каліноўцаў*. Яшчэ адна ягоная пазнака знаходзіцца на працы а. Міколая Лапіцкага "Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы", што выйшла ў Нью-Ёрку ў 1978 г.

Пазнака Цяўлоўскага, ўнівэрсытэцкага выкладчыка ў Аргентыне: "EX LIBRIS / de EMIL CIAWLOWSKI / J.V. GONZALEZ 1137 / [M?]ERLO - F.N.D.F.S. - ARGENTINA" — знаходзіцца на прысланай ім для ББФС кнізе архіэпіскапа Апанаса Мартаса *Беларусь в исторической государственной и церковной жизни* (Буэнос-Айрэс, 1966); пры дараваньні кніга была забясьпечана нататкай: "No Negociable / 6.1.1967 / Ciawłowski". Штамп: "Victor Iwanowski" месьціцца на ратапрынтным "Юнацкім сьпеўніку" (Б.в.д.), што быў апублікаваны ў Нямеччыне неўзабаве пасьля вайны, а таксама на некаторых іншых выданьнях.

## Заканчэньне

Такім чынам, мы прадставілі найцікавейшыя, як здаецца, беларускія кніжныя пазнакі з калекцыі Скарынаўскае Бібліятэкі ў Лёндане. Гэта, аднак, толькі малая частка тых гісторыка-культурных багацьцяў, што перахоўваюцца ў зборах ББФС і патрабуюць публікацыі. Хочацца спадзявацца, што пададзеныя у нашым кароткім аглядзе зьвесткі ўвойдуць у навуковы ўжытак, а кніжныя пазнакі будуць часьцей разгляданыя ў якасці гістарычных крыніцаў і здабудуць, нарэшце, належную ўвагу дасьледчыкаў.

## Зьмест